# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК





№ 31 (649) ГОД XIII 4 ЖНІЎНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.

## СУСТРЭЧА Ў МСВ

У Міністэрстве ўнутраных спраў 21-га ліпеня адбылася сустрэча сакратароў галоўных праўленняў нацыянальных таварыстваў у Польшчы і некаторых кіраўнікоў аддзелаў УСВ з кіраўніцтвам міністэрства МСВ. Вёў сустрэчу дырэктар дэпартаменту грамадска-адміністрацыйных спраў З. Арлоўскі.

У сустрэчы ўзяў таксама ўдзел сакратар нацыянальнай камісіі пры ЦК ПАРП У. Скшыпчак.

Тав. З. Арлосўкі ў сваім выступленні гаварыў аб заданнях нацыянальных таварыстваў у перадз'ездаўскай кампаніі, а пасля падзякаваў кіраўніцтву нацыянальных меншасцей за добрую дагэтуляшнюю працу. (мх)

# СЛОВА ПАРТЫІ

11 лістапада адбудзецца V З'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі. З'езд падсумуе датагачасны этап сацыялістычнага развіцця нашай краіны і накрэсліць далейшыя яго напрамкі. Справы, якія абмяркуе З'езд партыі, гэта справы ўсяе краіны, усяго народа, далейшых нашых перспектыў і напрамкаў развіцця. Таму прынятыя на апошнім Пленуме Цэнтральнага Камітэта з'ездаўскія тэзісы дыскутавацца будуць не толькі членамі партыі, але і ўсім народам — арганізацыямі, уваходзячымі ў склад Фронту адзінства народа, ды беспартыйнымі на адкрытых сходах ПАРП.

Тэзісы паказваюць вялізныя гаспадарчыя і грамадскія перамены, якія адбыліся ў нашай краіне за часы народнай улады. Створана за гэты час моцная сацыялістычная гаспадарка, збудавана вялікая прамысловасць, прадукцыя якой у 13 разоў пераўзышла прадукцыю даваеннай Польшчы, усучаснілася і развінулася сельская гаспадарка, павялічыліся рады рабочага класа, выхавалася новая сацыялістычная інтэлігенцыя, павысіўся жыццёвы ўзровень народа.

Эканоміка краіны, яе гаспадарчае развіццё было і астанецца асноўным фронтам сацыялістычнага будаўніцтва, на якім канцэнтруецца ўвага і актыўнасць партыйных арганізацый. Сінтэтычным паказальнікам развіцця нацыянальнай гаспадаркі з'яўляецца ўзрост нацыянальнага даходу ў параўнанні з 1963 годам на 37 працэнтаў. Гадавы тэмп узросту нацыянальнага даходу дасягнуў 6,5%. Такім чынам, дасягнуў узровень, які нямнога краін у свеце здольна дасягнуць. Рэальныя даходы рабочых і працоўнай інтэлігенцыі ўзраслі ў тым самым часе на каля 20%, а рэальныя даходы сялян на 19%.

Шмат увагі з'ездаўскія тэзісы прысвячаюць міжнароднаму становішчу. Указваюць яны на заўзятую барацьбу сусветнага імперыялізму з сацыялістычным лагерам, на спробы парушэння адзінства сацыялістычных краін. Партыя наша разам з іншымі брацкімі партыямі актыўна працуе над падрыхтоўкай міжнароднай нарады камуністычных і рабочых партый, галоўным заданнем якой будзе ўмацаванне адзінства міжнароднага рабочага руху ў барацьбе з імперыялізмам.

Асобны, вельмі істотны раздзел з'ездаўскіх тэзісаў — гэта грамадска-палітычнае становішча ў краіне. У тэзісах паказана роля і вытокі рэвізіяніцкіх сіл, дзейнічаючых у Польшчы. Сілы гэтыя імкнуцца паменшыць ролю і значэнне партрыі ў нашай краіне, накіраваць развіццё краіны ў такім напрамку, у выніку якога сацыялістычная дзяржава сталася б падобнай на дзяржаву буржуазную, нават пры захаванні пэўных форм нацыяналізаванай прамысловасці. Рэвізіянізм пад маной абароны «свабоды» імкнецца да ўстанаўлення буржуазна - ліберальных прынцыпаў свабоднай барацьбы палітычных сіл, да адкрыцця дарогі антысацыялістычным сілам. Вытокамі рэвізіянізму з'яўляюцца перад усім астаткі буржуазнай, мяшчанскай свядомасці, якія асталіся ў розных асяроддзях грамадства. Шкоднасць рэвізіянізму ў тым, што прабуе ён унесці ў нашую сацыялістычную структуру чужыя ёй элементы капіталістычнай эканомікі і буржуазна - ліберальнай палітычнай надбудовы. Свабодная барацьба палітычных сіл, якую прапануюць рэвізіяністы давяла б да звальняння дынамікі гаспадарчага і культурнага развіцця краіны.

Тэзісы накрэсліваюць перспектывы далейшага развіцця гаспадаркі, культуры і навукі ў Народнай Польшчы. Даюць яны асноўныя прынцыпы наступнага гаспадарчага плана на 1971—1975 гады. Асноўныя паказальнікі гэтага плана прадбачваюць узрост фонду спажыцця на каля 27—29 прац. і ўзрост інвестыцый — на 38—40 працэнтаў. Прадбачваецца шэраг мерапрыемстваў, мэтай якіх будзе павышэнне жыццёвага ўзроўню працоўных мас, а асабліва пабольшання колькасці дзён водпуску для рабочых у залежнасці ад стажу іх працы.

Галоўным заданнем у галіне дасканалення метадаў планавання і кіравання гаспадаркай будзе стварэнне ў 1962—1970 гадах адналітай эканамічнай сістэмы. Сістэма гэтая павінна браць пад увагу наш гаспадарчы вопыт„ як і праверанвя ў практыцы вынікі вопыту ў галіне кіравання гаспадаркай у іншых сацыялістычных краінах.

У заканчэнні Цэнтральны Камітэт Польскай аб'яднанай рабочай партыі заклікае ўсіх членаў партыі і беспартыйных да актыўнай дыскусіі над праграмай дзеяння ўсяе партыі — праграмай далейшага сацыялістычнага развіцця Народнай Польшчы. (п)



НА ГРЫБЫ

# МАЛАДЫЯ БЕЛЬШЧЫНЫ

Заклік Галоўнага Праўлення ЗМВ «Тэлевізійнага дзённіка», «Штандару млодых» і «Папалудня з маладосцю» у справе акцыі «Вясна чыну» адбіўся шырокім рэхам сярод маладых. Вельмі актыўна адгукнулася на заклік вясковая моладзь. Аб «Вясне чыну» маладых з Бельшчыны хочам кароценька расказаць чытачам. Інфармуе нас Я. Вайцюк — старшыня ЗП ЗМВ.

— Як у вашым павеце пачалася акцыя? — пытаем старшыню Павятовага праўлення ЗМВ у Бельску Я. Войцюка?

— Можна сказаць, што амаль назаўтра пасля закліку, гэта значыць 15 красавіка, у нашае праўленне пачалі напплываць паведамленні аб абавязацельствах. Прысылалі іх гурткі ЗМВ, але ў працы прыняла ўдзел і неарганізаваная моладзь.

— А як бы ты акрэсліў, ахарактарызаваў палітычную атмасферу гэтай акцыі?

Характэрнай рысай гэтых усіх паведамленняў быў факт, што нашая вясковая моладзь, апрача матэрыяльнай карысці з працы, выказвала сваю высокую свядомасць, вялікае палітычнае заангажаванне. У кожным паведамленні маладыя падкрэслівалі, што прыймаюць абавязацельствы ў гонар V З'езда партыі, што гэтым хочуць выказаць сваю падтрымку для палітыкі нашай партыі. Гэта здзіўляла і захапляла больш усяго таму, што часта чуліся словы аб безідэйнасці моладзі.

— Ці мог бы ты ілюстраваць вышэй прыведзеныя сцвярджэнні прыкладамі?

— Калі ласка. Перад усім паведамлялі нас праўленні гурткоў, а часта і цэлыя сходы, аб урачыстай перадачы сваіх членаў ЗМВ у рады Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Агулам у першым паўгоддзі нашая павятовая арганізацыя ЗМВ перадала ў рады партыі 53 сваіх членаў. Ёсць і такія гурткі ЗМВ, якія ў апошнім часе перадавалі ў рады ПАРП аднаразова па тры-чатыры зэтэмвуоўцаў. Як прыклад, тут можа быць гурток у **Дубяжыне**, старшынёй якога з'яўляецца **Аляксандр Раманюк**. Гэты ж гурток ЗМВ у красавіку пастанавіў перадаць найбольш актыўных і зрэлых сваіх членаў у рады партыі. А вось іх прозвішчы: **Валя Раманюк, Аляксандр Раманюк і Міхась Шымчук**. Хочацца дадаць, што А. Раманюку прыпаў гонар атрымаць з рук I сакратара **Юзэфа Пяхоўскага** трохтысячны партыйны білет у Бельскім павеце.

— Гаворыш увесь час аб «Вясне чыну», а вось тут заадрасаваныя паведамленні ад гурткоў ЗМВ аб паднятых абавязацельствах. Цяпер жа лета?

— Фактычна так. Акцыя «Вясна чыну» ўжо закончана, але паведамленні аб правядзенні працы і далей наплываюць у адрас нашага Праўлення. «Вясна чыну» перарадзілася ў «Лета чыну». Да найбольш цікавых можна залічыць абавязацельствы гуртка ЗМВ у **Аўгустове**, што каля Бельска. Аўгустоўскі гурток ЗМВ з'яўляецца найвялікшым у павеце, налічвае аж 54 членаў. Кіруе гэтым гуртком **Юрка Левацюк**, які ўсё робіць, каб у гуртку не было нудна. Аўгустоўскія зэтэмвуоўцы летні перыяд выкарыстоўваюць на пабудову валейбольнай пляцоўкі, а таксама працуюць пры ўпарадкаванні і загаспадароўванні нядаўна адданага ў карыстанне спартыўнага стадыёна. У бліжэйшым часе моладзь з Аўгустова плануе ўпарадкаваць і загаспадараваць пляц побач з ГРН і перакрыць дах на святліцы. Плануюць таксама абгарадзіць стадыён, які пабудавана пры школе. Агульная вартасць працы выкананай грамадскім чынам гуртком ЗМВ у Аўгустове ацэньваецца на суму 35 тысяч зл.

У акцыі «Вясна чыну» і «Лета чыну» ў нашым павеце прыняло ўдзел 85% гурткоў ЗМВ. Вартасць прынятых абавязацельстваў аблічваецца на 830 тысяч зл. З гэтага ліку больш чым на 600 тысяч зл. працы ўжо выканана.

Размаўляў **А. Карпюк**

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ФЕСТЫВАЛЬ

У нядзелю 28 ліпеня г.г. адкрыўся ў сталіцы Балгарыі Сафіі IX Сусветны Фестываль моладзі і студэнтаў. Фестываль, які адбываецца пад лозунгам **«За салідарнасць, мір і дружбу»**, будзе працягвацца 10 дзён.

На Фестываль прыехала каля 20 тысяч дэлегатаў з 140 краін свету, якія прадстаўляюць 500 маладзёжных арганізацый свету. Ад першага дня Фестывалю назіраецца ўжо вялікая салідарнасць моладзі свету са змагаючымся В'етнамам. Энтузіястычна вітаецца тут дэлегатаў моладзі В'етнама, якія проста з поля барацьбы сюды прыехалі і якія пуцёўкі ў Сафію здабывалі іменна ў баі з амерыканскімі імперыялістамі.

Апрача 73 народных артыстычных кантактаў і 78 міжнародных, моладзь наладзіць 12 семінараў, многа сустрэч і шмат іншых мерапрыемстваў. Першыя дні Фестывалю паказалі, што з'яўляецца ён вялікім палітычным мерапрыемствам і што моладзь свету хоча жыць у міры.

### ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ ЖАНЧЫН

Вырашэнне пытання аб аднолькавай аплаце жаночай працы ў Англіі зноў адкладваецца на няпэўны тэрмін. Такія вынікі праведзенай нядаўна нарады паміж міністрам па пытаннях занятасці і прадукцыйнасці працы Барбарай Касл і генеральным дырэктарам канферэнцыі брытанскай прамысловасці Джонам Дэвісам. Удзельнікі гэтай нарады выказалі толькі «надзею,» што «спецыяльная камісія да канца года паведаміць аб эканамічных выніках увядзення аднолькавай аплаты працы».

На практыцы гэта азначае, што і ўрад, і прадпрыемства маюць намер і ў далейшым зацягваць вырашэнне праблемы аплаты жаночай працы. Між тым жанчыны, занятыя на вытворчасці, за адну і тую ж работу па-ранейшаму будуць атрымліваць значна менш за мужчын.

### ПРАДПРЫЕМСТВЫ Ў КОНГА

У Кіншасе афіцыйна аб'яўлена аб стварэнні волавападабываючай кампаніі «Конга—Этэн». Пяцьдзесят працэнтаў акцый гэтага прадпрыемства належыць дзяржаве.

### НАЁМНІКІ З ТАІЛАНДА

22 ліпеня ў Сайгон прыбыло амерыканскае транспартнае судна, на борце якога знаходзіцца 1.500 чалавек з тайландскай дывізіі «Чорная пантэра».

Цяпер Таіланд трымае ў Паўднёвым В'етнаме каля 2.500 чалавек і мае намер да канца жніўня падвоіць колькасць сваіх войск.

### АБ ІКП

Італьянская партыя дабілася ў выбарах у маі г.г. поспехаў. За ёю галасавала 8,5 мільёна італьянцаў. Цяпер камуністы маюць у палаце дэпутатаў 177 месц — на 11 месц больш, чым пасля выбараў у 1963 года; у сенаце яны маюць 87 месц супраць 83 у сенаце папярэдняга склікання. А.К.

## БССР

### ПРЭЗІДЫУМА

Адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. На парадку дня: выкананне прадпрыемствамі бытавога абслугоўвання абавязацельстваў, узятых у гонар 50-годдзя рэспублікі, работа з пісьмамі і скаргамі працоўных у Міністэрстве гандлю БССР і інш.

Паведамленні аб рэалізацыі абавязацельстваў у гонар 50-годдзя БССР публікавана пад загалоўкам — «Дэвіз: якасць, час, культура». Адносна другой справы парадку дня, між іншым, сцверджана:

«Наяўнасць вялікай колькасці недахопаў, якія выклікаюць нараканні насельніцтва, у значнай меры тлумачыцца нізкім узроўнем выхаваўчай работы ў сістэме гандлю і грамадскага харчавання».

### АДРАДЖЭННЯ

У Мінскім Палацы культуры прафсаюзаў адбыўся ўрачысты сход прадстаўнікоў грамадскасці беларускай сталіцы, прысвечаны 24-ай гадавіне Польскай Народнай Рэспублікі. У сходзе ўдзельнічалі высокія беларускія асабістасці — сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч, намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР Р. Кісялёў, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Клімаў, старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах друку Р. Канавалаў, які меў прамову.

З вялікай увагай было выслухана выступленне дарадчыка пасольства Польшчы ў СССР Адама Кажанеўскага.

### РУМЫНІІ

У Мінску пабывала дэлегацыя партыйных работнікаў і спецыялістаў хімічнай прамысловасці Румыніі, якую ўзначальваў член ЦК Румынскай камуністычнай партыі Штэфан Бобаш.

Дэлегацыю сустракалі загадчык аддзела хімічнай і лёгкай прамысловасці ЦК КПБ Л. Нагібовіч, сакратар Мінскага абкома КПБ А. Насілоўскі і інш.

Румынскія госці азнаёміліся з беларускай сталіцай, былі прыняты ў ЦК КПБ, наведалі «сталіцу беларускай нафтахіміі» горад Наваполацк.

### ФІНЛЯНДЫІ

У Мінску пабывала дэлегацыя Дэмакратычнага саюза народа Фінляндыі на чале з генеральным сакратаром Айма Хаапаненам.

У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі адбылася сустрэча фінскіх гасцей з актывістамі рэспубліканскага аддзялення Таварыства Савецкі Саюз — Фінляндыя.

### ТРЫКАТАЖ

Сёлета беларуская прамысловасць дасць 60 мільёнаў штук верхняга і ніжняга трыкатажу і 115 мільёнаў пар панчох і шкарпэтак.

У Пінскім камбінаце верхняга трыкатажу нядаўна пачаўся мантаж тэхналагічнага абсталявання, устанаўліваюцца навейшыя вязальныя машыны. Прадпрыемства будзе даваць штогод больш як 12 мільёнаў штук трыкатажных вырабаў. (ся)

## ПОЛЬШЧА

### I ПАЎГОДДЗЕ

Галоўнае статыстычнае бюро (ГУС) апублікавала чарговае камюніке аб развіцці нацыянальнай гаспадаркі і выкананні Нацыянальнага гаспадарчага плана ў першым паўгоддзі гэтага года. Падаем некаторыя важнейшыя дадзеныя змешчаныя ў камюніке.

Прамысловая прадукцыя ў мінулым паўгоддзі ўзрасла на 9 працэнтаў, падчас калі ў гадавым плане прадбачвалася ўзрост толькі на 7,1 прац. У многіх галінах прадукцыі тэмп развіцця быў хутчэйшы чымсьці прадбачвалася ў плане. Асабліва высокім тэмпам развіцця адзначалася прадукцыя хімічнай, электрычнай і машыновай прамысловасці. Пабольшылася прадукцыя ваўняных, лямінаваных і артыльёнавых тканяў, а таксама вырабаў з элястыку, эляны і кашуль нон-айрон.

Паверхня збожжавых пасеваў узрасла ў параўнанні з мінулым годам на 1 працэнт (пшаніцы на 7 прац.) Колькасць рагатай жывёлы ўзрасла на 2,2 прац., тым часам колькасць свіней зменшылася на 1,3 прац. Скупка збожжа пабольшылася на 14 прац., скупка ялавічыны на 20 прац., прычым скупка свіней зменшылася на 11 працэнтаў. Зменшылася таксама скупка яек на 10 прац., скупка малака пабольшылася на 5 працэнтаў. Пад сёлеташнія плёны выкарыстана на 15 прац. больш, чымсьці ў мінулым годзе штучных угнаенняў, у сельскай гаспадарцы працавала каля 160 тысяч трактараў, гэта значыць на 6 прац. больш, чымсьці ў канцы 1967 года.

Дэталічны продаж агулам узрос на 9,4 прац. Продаж мясных вырабаў быў на 1,1 прац. меншым, чымсьці год таму. Узрасло тым часам забеспячэнне на рыбу і рыбныя тавары, звярыныя і раслінныя тлушчы, кашу, масла, малако, макаронаў. Колькасць працуючых у знацыяналізаванай гаспадарцы ўзрасла на 3,6 прац. і пераскочыла лік 9 мільёнаў асоб. Для 470 тысяч асоб павышана заработкі. Колькасць лекараў узрасла на амаль 2000, колькасць ложак у бальніцах узрасла на 2100, асягаючы лік 163 тысячы.

### ПРАБЛЕМЫ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі Юзэф Тэйхма даў інтэрв'ю прадстаўніку агенства ПАП, у якім кранае некаторыя асноўныя праблемы нашай сельскай гаспадаркі. Тав. Юзэф Тэйхма падкрэсліў, што адна з галоўных мэт, накрэсленых на IV з'ездзе ПАРП — ліквідацыя імпарту збожжа — паступова рэалізуецца пры адначасовым узросце звярынай прадукцыі. Далей сакратар ЦК партыі звярнуў увагу на ўзрост трывалай маёмасці нашай сельскай гаспадаркі, прагрэс у ПГР-ах, пашырэнне дзейнасці сельскагаспадарчых гурткоў. Гаворачы аб заданнях сельскай гаспадаркі тав. Юзэф Тэйхма ўказаў на патрэбу прадыскутавання напрамкаў інвестыцый у сельскай гаспадарцы, на неабходнасць лепшай каардынацыі працы ўстаноў і арганізацый абслугоўваючых сельскую гаспадарку. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### СПРАВАЗДАЧНА - ВЫБАРНАЯ КАМПАНІЯ ЗБоВіД

Падсумавана справаздачна - выбарную кампанію ЗБоВіД на Беласточчыне. Ад кастрычніка 1967 г. да лютага гэтага года адбыліся агульныя сходы гурткоў ЗБоВіД. За гэты перыяд арганізавана 19 новых гурткоў; 5 гарадскіх і 14 вясковых. Зараз на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства налічваецца 121 гурток ЗБоВіД — 46 у горадзе і 75 на вёсцы.

### ПЛАН ВЫКАНАНЫ

Прэзідыум рад нарадовых, ГС-ы і ПЗГС у Гайнаўцы напярэдадні Свята Адраджэння 22 ліпеня выканалі ў 100% план кантрактацыі збожжа.

У гэтым годзе вельмі добра вывязалася ГРН у Старым Ляўкове, якая выканала свой план, як адна з першых.

### У ДУБРОЎСКІМ...

...павеце на працягу няпоўных 5 месяцаў г.г. прынята на членаў партыі 122 кандыдаты, у тым ліку: 43 гаспадароў, 28 рабочых і 25 працаўнікоў разумовай працы. Арганізавана таксама 3 партарганізацыі і 5 кандыдацкіх груп. Зараз дуброўская партарганізацыя налічвае 1300 чалавек.

### У ГОНАР V З'ЕЗДА

Ваяводскае прадпрыемства мяснога промыслу інфармуе, што калектыў мясакамбіната выканаў прадукцыйныя абавязацельствы і грамадскія чыны, прынятыя ў гонар V з'езда ПАРП. Адны з аддзелаў мясакамбіната далі звышпланавую прадукцыю на суму 14,1 мільёнаў зл., а планавалася толькі 2,2 мільёна зл., іншыя папраўлялі эканамічныя паказнікі і паменшылі кошты прадукцыі на 2.336 тысяч злотых на план 846 тысяч зл.

Выкананыя абавязацельствы ўжо прынеслі дадатковы лік 16.450.500 злотых.

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ ІНВЕСТЫЦЫІ

У мінулым тыдні адбылося пасяджэнне Камітэта д/с сельскай гаспадаркі пры ВК ПАРП. У час пасяджэння абмяркоўвалася выкананне будаўляных заданняў па I паўгоддзе.

План рамонтна-будаўляных прац за 1968 г. складае суму 457,8 мільёна зл. На працягу 6 месяцаў выканана толькі ў 37,6 працэнтах, гэта значыць на суму 171,2 мільёна зл. У параўнанні да мінулага года выкананне прац на 2,4 працэнтаў меншае.

На прыкладзе візітацыі многіх будаваных аб'ектаў даказана вялікую нядбайнасць будаўляных прадпрыемстваў.

### ЧЫН САЛДАТ

Салдаты Падляшскай ваеннай часці ў гонар V З'езда партыі і 25 гадавіны Войска Польскага выканалі многа абавязацельстваў. Адным з асноўных абавязацельстваў была пабудова грамадскім чынам цэнтра фізічнай спраўнасці. Цэнтр перараказана ў карыстанне ў мінулую нядзелю. (ак)




**NIEDZIELA, 4.VIII.**

9.15 Program dnia. 9.20 „Droga do celu" — film fab. ang. 10.15 „Zamek Petticoat" — film („Przygody trzech muszkieterów"). 10.45 „Przypominamy, radzimy". 11.00 „Jasna Polana" — opowieść o mieście rodzinnym Lwa Tołstoja (Moskwa). 11.30 „Karczma w Gliwicach" — program muzyczny. 12.10 PKF. 12.20 Przerwa. 13.25 Program dnia. 13.30 Wiadomości dziennika. 13.40 „Przemiany". 14.10 Dla dzieci: „Królowa Śniegu" — film fab. radz. 15.40 „Kierowcy i przechodnie" — teleturniej. 16.40 „Ludzie i zdarzenia". 16.55 Sprawozdanie sportowe. 18.20 Program filmowy. 18.50 Felieton literacki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Teatrzyk naszych Kolegów" — program rozrywkowy. 20.45 IX Światowy Festiwal Młodzieży i Studentów. Koncert pieśni patriotycznych (Sofia). 21.30 „Mściciel z Laramie" — film fab. USA. 23.05 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 5.VIII.**

17.15 Program dnia. 17.20 Wiadomości dziennika. 17.25 „Na zdrowie". 17.45 „Dziwna historia pewnych spodni" — film fab. węg. 18.20 „Eureka". 18.50 „Pokolenie ZMP". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 V TV Festiwal Teatrów Dramatycznych: J. Racine — „Brytanik". 21.45 „Kino Krótkich Filmów". 22.10 Dziennik TV.

**WTOREK, 6.VIII.**

10.00 „Słońce i cień" — film fab. bułg. 11.15 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Teleferie. 18.15 TV Kurier Warszawski. 18.30 „7 milionów młodych". 18.45 „Anna Sokołowska" („Sylwetki X Muzy"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Żołnierska rzecz" — koncert poświęcony polskiej piosence i poezji żołnierskiej. 20.40 „Król win" — rep. film. z Węgier. 21.00 IX Światowy Festiwal Młodzieży i Studentów. Uroczystość zakończenia. (Sofia). 22.00 Dziennik TV. 22.15 „Słońce i cień" — film fab. bułg.

**ŚRODA, 7.VIII.**

10.00 „My, mężczyźni" — film fab. radz. 11.20 Przerwa. 16.25 Program dnia. 16.30 Międzynarodowy Festiwal Zespołów Amatorskich. 17.30 Wiadomości dziennika. 17.35 „Zagubiony świat Sumerów". „Wzdłuż wielkiej rzeki" — filmy („Z kamerą po świecie"). 17.50 „Na morskich szlakach". 18.45 Wszechnica TV: „Rok 2000". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.00 „Niespodzianka" — nowela filmowa franc. 20.25 „Światowid". 20.55 PKF. 21.10 „Przeboje 68" — koncert popularnych piosenek. 22.15 Dziennik. TV.

**CZWARTEK, 8.VIII.**

10.00 „Termos" i „Szantażystka" — filmy TVP („Kpt. Sowa na tropie"). 10.55 Przerwa. 16.25 Program dnia. 16.30 Międzynarodowy Festiwal Zespołów Amatorskich (Kiszyniów). 17.30 Wiadomości dziennika. 18.00 „Telekram". 18.10 „Kronika 50-lecia Kraju Rad — rok 1920". 18.40 „Na łotewskim wybrzeżu" — film radz. 19.00 Rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Trybuna Telewizyjna". 20.40 „Zwali go Al Capone" — film fab. jug. 21.45 Magazyn Medyczny. 22.15 Dziennik TV.

**PIĄTEK, 9.VIII.**

10.00 „Zwali go Al Capone" — film fab. jug. 11.00 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Teleferie. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 „Reportaż z Ogólnopolskiej Wystawy Ogrodniczej. 19.00 Tańczy i śpiewa Białoruski Amatorski Zespół Estradowy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Wdowa i kapitan" — film fab. węg. 21.20 „Pozdrowienia z Rostocku" — rep. film. 21.35 „Wielcy i nieznani". 22.05 Dziennik TV.

**SOBOTA, 10.VIII.**

10.00 „Zepsuty do szpiku kości" — film fab. ang. 11.25 Przerwa. 16.10 Program dnia. 16.15 Program tygodnia. 16.35 „Od producenta do konsumenta" 17.00 Sprawozdanie sportowe. W przerwie, ok. 17.45 Wiadomości dziennika. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.10 „W kawiarni „Tele-Mocca". 21.10 Dziennik TV. 21.25 Wiadomości sportowe 21.35 „Zepsuty do szpiku kości" — film fab. ang. 23.00 „Ewa i jej mąż" — film.




**Piątek, 2 sierpnia**

15.25 Nowiny. 15.35 Program. 15.40 „To zależy od was". 16.00 Teatr literacki. Opowiadanie I. Hromowicza. 16.40 „5+2". Przegląd. 17.00 Reportaż ze żniwa. 17.30 Futboł. 19.15 Sztafeta nowin. 20.00 Z festiwalu młodzieży i studentów. 21.50 Tylko fakty. Program.

**Sobota, 3 sierpnia**

6.55 Program. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Nowiny telewizyjne. 8.00 W dniu urodzin. 8.30 Zdrowie. Naukowo-popularny program. 9.00 Szkatułka muzyczna. 9.15 Interwiu z przewodniczącym białoruskiej kolei. 9.50 Reportaż ze żniw. 10.30 Festiwal filmów. Do 50 rocznicy Komsomołu. 12.10 Teatr telewizyjny dla dzieci. 13.10 Nowiny dnia. 13.30 W eterze „Młodość". 14.00 Satyra telewizyjna. 14.15 Tydzień ekranu błękitnego. 14.30 Program telewizji kolorowej. 16.00 Klub kinopodróżnika. 17.00 Koncert. 18.15 „Czas". Program informacyjny. 18.45 Przy kominku. 20.00 Z festiwalu młodzieży i studentów. 21.50 Tylko fakty.

**Niedziela, 4 sierpnia**

6.55 Program. 7.00 Gimnastyka. 7.30 Budzik. 8.00 Dla was kobiety. 8.30 „Wiedza". Naukowo-poznawczy program. 9.00 Ekran dla dzieci. 9.20 Filmoteka muzyczna. 10.10 Społeczeństwo i prawo. 11.00 Dla młodzieży szkolnej. 11.30 Encyklopedia TV. 12.00 Dla żołnierzy i marynarzy. 12.30 Kiosk muzyczny. 13.00 Festiwal Filmów „Szeregowy Aleksander Matrosow". 14.30 Program telewizji kolorowej. 15.00 Festiwal amatorskich zespołów tanecznych. 17.00 Koncert 18.15 Festiwal młodzieży i studentów. 19.00 Siedem dni. — Program międzynarodowy. 20.00 Festiwal w Sofii. 21.50 Tylko fakty.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 116





## ПРАКЛЯЦЦЕ

Жанчыны! Вайна, выйграная ці прайграная, аднолькава Вас каштуе. Медныя трубы перамогі не заглушаць Вашага болю па забітым мужу, бацьку, сыне, нарачоным, каханку, а няшчасце разгрому — гэта насмешка над Вашай годнасцю, раздзетая ганьба, гіганцкі спектакль пародыі кахання і непаголеная іржучая публіка. О, Прыгожая Елена! Нашага часу Менелей не пайшоў бы вайною за Тваю годнасць.

Жанчына! Бог вайны ставіць Цябе на п'едэстал чалавечнасці або кідае Цябе ў балота, робіць Цябе бясцэнным скарбам альбо выцяганай шматкай на падсцілку пераможцам.

Дык хай будзе пракляты бог вайны! Дык хай будзе пракляты навечна той, хто ў яго верыць!! Дык хай акамянее ад праклянцця той, хто забаіцца найстрашнейшага з багоў, якога калі-кольвек выдумалі людзі!!!




Да яе заходзіў Сяргей і яна хадзіла з ім на забавы — танцавалі і смяяліся, пілі ліманад і смяяліся. А, калі было ёй дваццаць год, пілі самагонку. Тады прыйшла на забаву маці, выняла з-за пазухі рамень і пачала біць яе. Сяргей засланіў яе сабою, маці біла рамянём раз па ёй, раз па Сяргею, аж змучылася.

Сяргей быў з бядняцкай сям'і і не меў прафесіі. Яна была вельмі прыгожэй і беднай. Маці хацела выдаць яе замуж за кагосьці з багатай сям'і. Потым за сваяка, Юлька.

Юлек атрымаў багатую спадчыну па дзядзьку ў Буэнас-Айрэс, які нарэшце памёр, і бацькі Юлька заказалі ў вясковага святара паніхіду. На паніхідзе была яна і яе маці. Пасля паніхіды адбыўся пачастунак, спаілі Юлька і яе і ўкладавілі іх разам у пасцель. Назаўтра яна была разахвочаная і пілі яшчэ. Гэта было ўжо вяселле, зацягнулася яно дапазна. Апоўначы святар даў ім шлюб перад аблічам Хрыста, яна была моцна п'яная і Юлек трымаў яе аберуч. Яе маці плакала ад радасці.

Яны хутка выехалі ў Буэнас-Айрэс. Было гэта пасля вайны.

У гэтым годзе яна прыехала наведаць вёску, пайшла на магілу маці, але заплакала толькі тады, калі ўбачыла Сяргея. Сталася гэта на вуліцы і ў белы дзень.

Праз гадзіну ішоў аўтобус у Беласток. Яна хутка спакавалася і ад'ехала ім. У Беластоку зайшла ў саборную царкву і доўга кленчыла; у саборы пуста і змрочна. Увечары выехала ў Варшаву, там села ў поезд, што ідзе цераз Кракаў у Вену, далей у Рым і Неапаль. У Неапалі выкупіла білет на параход «Санта Марыя», які праз месяц адплываў у Буэнас-Айрэс, выклікала таксі, заехала ў гасцініцу, наняла пакой на цэлы месяц і першы раз за ўсю дарогу моцна выспалася. Вярнуўся добры настрой, ранкам выбралася ў горад і, калі пераходзіла цераз вуліцу, наехала на яе грузавая машына. Шафёр быў п'яны, крычаў паліцыянт.

Памерла ў карэтцы да бальніцы.

Студзень, 1967 г.

*) Апавяданне раней друкавалася ў «Жыццю Літэрацкім» ад 21.I.68 г. — у перакладзе Эдварда Рэдлінскага. («Выпадак»).

## ШЛЮБНАЯ НОЧ

Андрэй, як усе нармальныя людзі, дапускаецца таго, што звычайна называецца свінствам. Тады Андрэй не глядзіць у вочы жонцы Марысі.

— Маеш непрыемнасці на рабоце? — пытаецца жонка, яна не ведае праўды. — Адпачынь, ты перамучаны.

Марыся і Андрэй пакахаліся неспадзявана, калі восень у кустах счырванела. Шлюб адбыўся 13 лістапада, у тэты дзень першы раз пацалаваў Марысю і то пры сведках. Марыся заплакала ад сораму, шлюб адбыўся на трэцім тыдні іх знаёмства, бо Андрэй меў незвычайную магчымасць адразу атрымаць двухпакаёвую кватэру. Але гэта была яго выдумка, махлярства. Яму вельмі моцна залежыла на Марысі, кватэру атрымалі праз паўтара года. Пасля шлюбу сустракаліся на скрыжаванні вуліц Электрычнай і Міцкевіча, ішлі ў парк, заходзілі далёка і цалаваліся пад голымі дрэвамі. Падаў рэдкі снег з дажджом. Дзень у дзень Андрэй хадзіў крокам шалёнага па цэлым Беластоку, ніхто не хацеў наймаць пакой для маладой пары: дзеці будуць, пане, балаган! Аж махлярства яго выдалася, Марыся нічога не сказала, больш не з'явілася на скрыжаванні Электрычнай і Міцкевіча. Пайшоў да яе, бацька выціснуў мужчынскі жарт, выпілі паўлітра, прыйшла маці. Сказала: — Жыві, Андрэйка, у нас пакуль што...

Кватэра малая, меншы пакой, бы засек, там маці з бацькам, і брат Марысі; у большым — дзве сястры, якія прытвараюцца, што спяць, а на сафе, ля процілеглай сцяны, Марыся з Андрэем. Яна плача — зразу думаў, што смяецца.

Потым доўга паліла Андрэя думка, чаму найбольш агідныя жарты і найбольш жудасныя праклёны датычаць самога прыгожага ў жыцці, кахання, адносін паміж мужчынам і жанчынай?

## ПРЫТЫК

Калі зіма ўжо пабітая, але яшчэ прытаілася ў ельніках, а зеляніна асцярожная і нясмелая, бачым сонца: святло, блакіт і прастор. Бачым далёка: аж дзяцінства пакудлачанае, маладосць фанабэрлівую і, урэшце, памылкі дарослыя.

Эх, каб чалавек меў такі зрок у васемнаццаць год!

Да аглядак дык усе мы майстры...

(УРЫВАК З АПОВЕСЦІ)

Юрак пайшоў. Ён не пайшоў дадому, яму трэба было на вакзал. Спадзяваўся прыезду жонкі, але жонка не прыехала.

За саборам Святога Мікалая сеў у аўтобус і заехаў на вакзал. Зайшоў у прывакзальны рэстаран, дзе прадаюць добрае нямецкае піва ў бутэльках. Папіў піва і вярнуўся ў цэнтр горада.

У цэнтр ехаў аўтобусам, абазначаным шостым нумарам. У месцы, дзе пачынаецца Алея Першамая, аўтобус раптоўна хібнуўся ўбок: з Алеі Першамая выехала проста на аўтобус малая легкавая машына, кіраваў ёю малады хлопец, побач яго таксама хлопец, сядзеў раскірачыўшы ногі. На заднім сядзенні відаць было дзяўчат. Шафёр аўтобуса прыадчыніў дзверцы і аблаяў усіх у легкавой машыне, але там не пераймаліся, праехалі міма аўтобуса. Дзяўчаты смяяліся.

Юрак выйшаў на Рынку Касцюшкі, на паўстанку каля рэстаўранавай старой ратушы. Прапусціў наперад дзяўчыну з вялізным чамаданам, яна хісталася, чамадан вельмі цяжкі. Юрак

— Не, — яму захацелася піць.
— Я панясу.
— Што вы! Я не з слабых.
Яна паглядзела яму ў рукі.
— Вып'ем, — сказаў ён.
— Я не люблю піва.
— Ёсць аранжада.
— Аранжаду можна.
Ёй таксама хацелася піць.
— Няма аранжады, — сказалі ў кіёску. — Ёсць ліманад, ёсць садовая вада.
— Бутэльку ліманаду і бутэльку піва, — сказаў.
Падаў дзесяцізлотавую манету.
— Капэрнік! — сказала з захапленнем дзяўчына.
На манеце адціснуты партрэт Капэрніка.
— Капэрнік, — ён паглядзеў на манету, зразумеў, што гэтакіх манет пакуль мала і некаторыя захоўваюць іх сабе.
— Пані збірае манеты? — зноў нязграбнае пытанне.
— О, так, — сказала яна. — А пан?
Ён узяў манету назад і падаў яе ёй.
— Проша.
— Але ж гэта грошы, — яна гаварыла няшчыра.




не бачыў, дзе і як яна сядала ў аўтобус з такім чамаданам.

— Памагу пані, — сказаў да дзяўчыны.

К чорту, знаёмыя ўбачаць, падумаў. Чамадан быў напраўду цяжкі.

Дзяўчына нічога не сказала, нясмела ўсміхнулася і пайшла побач.

— Цяжкі чамадан, — сказаў ёй. — Не на вашы рукі чамадан.

— Мне недалёка, — сказала яна.

Чуўся нялоўка з чужою на Рынку Касцюшкі. Увайшлі ў спакойную вуліцу да парка, даходзілі да стаянкі таксі.

— Пані куды? — запытаў яе.

— Мне недалёка.

Ёй чамусьці стала смешна.

— Мне недалёка, — сказала. — Мне трэба да інтэрната Медыцынскай акадэміі.

Інтэрнат акадэміі амаль на ўскраі парка, таксі непатрэбнае, смешна наймаць таксі. Але ў таксі можна не таварыць, а ідучы пехатою не выпадае маўчаць.

І ён азваўся:

— Вучыцеся ў акадэміі? — не ўжыў слова «пані» і таму пытанне прагучэла ненатуральна.

— Так, на другім курсе.

— Цяжка вучыцца?

— Залежыць у якога прафесара, — сказала яна даволі свабодна.

— Калі я вучыўся... — і ён расказаў забаўную гісторыю з часоў сваёй вучобы.

Дзяўчына смяялася.

— Пану не цяжка? Мо разам будзем нясці?

Яна прапанавала. Юрку здалося, што яна запрапанавала нешта больш, чым сваю руку пры чамадане.

— Не. Што вы! — хутка адказаў.

Захацелася, каб яна не згадзілася, запярэчыла. Але яна загаварыла аб ветлівасці, нейкі хам у цягніку наступіў ёй на нагу, абдзёр абцасам бок зграбнага туфля. Паказала на левы туфаль.

— Змарнаваў туфаль.

— Шкада туфля.

— Падабаюцца мне тэтыя туфлі.

Паставіў чамадан на асфальце алеі. Каля кіёска з напоямі банда дарослых і дзяцей, дарослыя п'юць з бутэлек, дзеці ліжуць марожанае і пішчаць.

— Цяжка пану.

— Якія гэта грошы?

Сунуў манету ў яе далонь.

— Проша.

— Але ж...

— Проша, проша.

— Дзякую.

— Няма за што.

— Я маю дзве пяцёркі, — і пачала шукаць іх у торбачцы.

Падаў ёй бутэльку ліманаду.

— Вазьму не менш, як сто злотых.

Гэта быў жарт.

І яны засмяяліся.

Выпілі і пайшлі. Ішла блізка яго. Ужо відаць інтэрнат акадэміі і трэба запытаць дзяўчыну, як называецца яна. Ён запытаў бы, як называецца яна, але трэба б дамовіцца і на спатканне. Смешна запытаць пра імя і не дамовіцца. Смешна.

— Прыгожы інтэрнат, — сказаў.

— Цесна ў ім, — сказала яна. Многа студэнтаў, не можа знайсці кватэры ў горадзе, жыве ў інтэрнаце нелегальна. Начуюць то ў адным, то ў другім пакоі. Цесны інтэрнат.

Пабудуюць большы.

— О ля! Калі гэта будзе!

Дайшлі да сходаў, дзверы расчыненыя, відаць у холю студэнтаў, глядзяць на яго і на яе і гавораць паміж сабою.

Пастаялі. Зразумела, што ён не адважваецца, і закончыла размову.

— Вельмі дзякую пану за дапамогу.

— Можа аднесці чамадан у пакой?

— Дам сама рады. Вельмі дзякую за дапамогу.

— Я магу аднясці. Пані будзе цяжка нясці па сходах.

— Не. Я і так замнога выкарыстала пана, — яна рашылася сказаць больш.

Усміхнулася яму ў вочы. Адкрыла рот і не сказала нічога.

Потым сказала:

— Да пабачэння.

— Да пабачэння, — Юрку моцна захацелася адыйсці адсюль.

У холю студэнты.

— Да пабачэння, — сказала яна яшчэ раз.

Ён хутка пайшоў назад. І колькі потым не прыглядаўся да студэнтак, не ўбачыў яе. Ён не помніў яе вачэй і носа.

 



Супрасляўская царква, усходняя сцяна. Стан з 1941 года.

**У залах Акруговага музея ў Ратушы (Беласток, Рынак Касцюшкі) урачыста адкрылася выстаўка фрэскаў з Супраслі. Удалося захаваць і рэстаўраваць 30 фрэсак — бясцэнных твораў мастацтва. Выстаўка будзе працягвацца 3 месяцы.**

# СУПРАСЛЯЎСКІЯ ФРЭСКІ

Сёння пару слоў аб гісторыі супрасляўскіх фрэсак. Слаўная супрасляўская царква была збудавана ў 1503—1511 гадах. Архітэктура яе — гэта гарманійнае спалучэнне візантыйскага будаўніцтва з заходнееўрапейскім готыкам. Была гэта абаронная царква. Такі тып царквы сфармаваўся на землях паўночна-усходняй Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны ў XV—XVI стагоддзях.

У 1557 годзе, дзякуючы фундацыі архімандрыта Сяргея Кімбара, царква ўнутры была ўпрыгожана фрэскамі візантыйскага характару. Прадстаўлялі яны сцэны з жыцця Хрыста і Марыі, постаці арханёлаў, херувімаў, апосталаў, пракракаў, святых мучанікаў. Паводле Хронікі Супрасляўскай Лаўры, маляваў яе манах — серб па паходжанні «Сербін Нектарый маляр». Маляваў ён на сценах, у водахрысцілішчы і галоўным корпусе царквы.

У другой палове XVII стагоддзя ў царкве быў пастаўлены познерэнесансавы іканастас, выкананы ў 1664 годзе гданьскім майстрам Андрэем Мадзалеўскім.

У 1852—59 г.г. праз знішчаны дах цякла вада і роспісы часткова знішчыліся. Замалявана іх вапнай.

За часы архімандрыта Мікалая Далматава, у 1887 годзе, роспісы былі адчышчаны і праведзена рэстаўрацыя.

У 1944 годзе адступаючыя акупанты ўзарвалі царкву. У 1945/46 г. уцалелыя фрэскі разам з тынкам былі зняты, а ў 1964 годзе Працоўня рэстаўрацыі архітэктурных помнікаў у Варшаве прыступіла да іх рэстаўравання, якое працягвалася 2 гады.

Захаваныя фрагменты сценных роспісаў былі дэкарацыяй дзвюх васьмібочных калон галоўнага корпуса царквы.

Сярод 30 адратаваных фрэсак у цэласці захавалася толькі 7 людскіх постацей і тры медальёны.

Фрэскі з Супраслі з'яўляюцца адным з вельмі рэдкіх у Польшчы прыкладаў сценнага роспісу з візантыйскімі ўплывамі. Стройныя, прадаўгаватыя постаці, лёгкасць у рухах, вытворнасць фалдаў адзежы, багацце колераў і адценняў. Пераважае сіне-шэры колер фону.

Маестатычныя, поўныя глыбокай задумы і спакою візантыйскія святыя ў яснай лёгкай танацыі, найчасцей ружовай і залаціста-жоўтай.

У 1453 годзе візантыйскае мастацтва перастала існаваць. Канстантынопаль занялі туркі, царквы замянілі на мячэці, фрэскі пакрылі вапнай. Візантыйскія мастакі пайшлі ў свет.

І 100 год пазней, на поўначы, у царкве васільеўскага манастыра ў Супраслі яшчэ раз заяснела ўсё хараство мастацтва, якое вырасла з пастаянна жывых традыцый візантыйскага эленізму.

Паводле Л. Лебядзінскай апр. В.Л.



Супрасляўская фрэска «Святы Георгій».



Фрагмент драўлянага іканастаса супрасляўскай царквы — «царскія вароты» (перад знішчэннем).

## ПАВЫШАЮЦЬ АДУКАЦЫЮ

Працаўнікі ГС-у ў Гайнаўцы разумеюць, што каб лепш працаваць, каб больш прыносіць карысці прадпрыемству і сабе, неабходна павышаць свае веды, неабходна вучыцца. І ў гэтай установе зараз вучыцца ў сярэдніх эканамічных школах 13 чалавек. Добрым прыкладам у гэтым служаць кіраўнікі ГС-у. Прэзэс ГС-у Мікола Клімюк вучыцца ў Варшаўскім універсітэце. Ужо ён закончыў 4-ты курс «права». Намеснік прэзэса Аляксандр Плева з'яўляецца студэнтам 2-га курса Вышэйшай школы планавання і статыстыкі.

(мх)

**М. ЯНКОЎСКІ**

**БЫЛЫ КАМАНДЗІР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ "У ІМЯ РАДЗІМЫ" БЕЛАСТОЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ**

# У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

На сядзібе Алексеюка партызаны адчувалі сябе, як дома. Дуня і бялізну памые ім, і хусцінкі насавыя дасць, а калі пазногці ў каторага заўважыць, брудныя рукі ці ногі, адразу ж загадае навесці парадак. Грозная была гаспадыня шпіталя, а любілі яе ўсе. Мабыць, кожную грозную жанчыну любяць, калі ў яе такое ж добрае, як у Дуні, сэрца.

Мы ўжо збіраліся выходзіць назад у Белавежскую пушчу, куды я выклікаў 80 партызан з Ружанскай пушчы і папрасіў Віталія Вікенцьевіча Кундовіча пад іх аховай прывесці работнікаў усіх падпольных райкомаў партыі і райкомаў камсамола. Дзень іх прыбыцця быў вызначаны на 26 красавіка. Але выпадковасць затрымала нас: 20 красавіка ноччу партызаны атрада Жукава сутыкнуліся з «акоўцамі». Канфлікт патрабаваў тэрміновата вырашэння і праз сувязных Томаша Грабажа мы звязаліся з Варшаўскім ваяводскім штабам «акоўцаў». Даведаўшыся, што ў гэтыя краі прыбыў якісь камбрыг Мартынаў-Янкоўскі, «акоўцы» самі папрасілі сустрэчы з намі.

Сустрэча была арганізавана ў доме аднаго лесніка ў Лемпіцкім лесе. Аднак сустрэча добрых вынікаў не дала.

23 красавіка мы вярнуліся ў лагер атрада імя Дзяржынскага, а 25 красавіка сустракалі папаўненне з Ружанскай пушчы, якое прыбыло пад камандваннем Віталія Вікенцьевіча Кундовіча.

Мы разлічвалі, што да нас прыдзе група 80—90 чалавек, бо на больш людзей вельмі цяжка было здабываць прадукты з заходняга боку чыгункі Гайнаўка — Ваўкавыск, ды самыя абставіны ў Белавежскай пушчы і ў раёнах не дазваляла нам размясціць больш людзей. Усю брыгаду можна было выклікаць сюды толькі ў канцы мая. Прышло ж да нас каля 150 чалавек, прычым ў складзе гэтай буйнай адзінкі было пяць груп асобага назначэння са сваімі рацыямі. Гэтыя групы мы павінны былі правесці за левы бераг Заходняга Бугу. Апрача гэтага, прыбыло тры групы асобага назначэння таксама са сваімі рацыямі, якія застаюцца ў нашым раёне дзеяння. Прыбылі асноўныя баявыя сілы атрадаў Багдана Хмяльніцкага і Кутузава са сваімі штабамі. Тэрмінова была склікана нарада камандзіраў і партыйнага актыву з удзелам усіх кіраўнікоў груп, на якой зацвердзілі план дзеяння.

26 красавіка ўсе групы дальняга следавання, пад узмоцненай аховай былі праведзены за Буг, а групы асобага назначэння нашай зоны ў гэты ж дзень вышлі на вызначаныя ім базы. Маёр Хмелеўцаў, які прышоў сумесна з Кундовічам, накіраваўся на базу, створаную Валодзем. Капітан Васюк таксама прышоў у наш лагер на захадзе Белавежскай пушчы. Для ўсёй яго групы базу стварыў Пётр Волас у раёне вёскі Відава. Там быў наш малады сувязны. Ён на сваім агародзе зрабіў зямлянку, у якой і жыла група Воласа. Прозвішча таго хлапца я забыў. Памятаю толькі, што мы яго называлі «начальнікам штаба». Сумесна з капітанам Васюком прыбыла яго радыстка Ліда Глухоўская.

27 красавіка атрад імя Багдана Хмяльніцкага выйшаў на сваю базу на паўднёвым захадзе пушчы ў раёне Арэшкава, а атрад імя Кутузава — на поўнач Белавежскай пушчы, у раёне вёскі Семяноўка. Пры атрадзе Дзяржынскага быў сфарміраваны ўзвод асобага назначэння, які выбыў пад камандваннем Куўшынава і начальніка разведкі Бандарэнкі ў невялікія лясы на рацэ Нараўка, на поўнач ад Бельска, на подступы ў Лапскі раён.

Такім чынам ужо к канцу красавіка былі пракладзены з Белавежскай пушчы шляхі ў Ружанскую пушчу, у атрад імя Пархоменкі праз базу атрада Хмяльніцкага, у атрад імя Жукава — праз чыгунку на поўнач ад Навасад і праз Бельскі раён, да ўзвода Куўшынава праз чыгунку на поўнач ад вёскі Пераход і ў Заблудаўскі раён праз базу атрада Кутузава.

Апрача гэтага, было вырашана стварыць тры камандныя пункты брыгады. Першы — ў Рудакоўскім лесе для каардынацыі дзеянняў атрадаў імя Пархоменкі, імя Жукава і ўзвода Куўшынава пад маім камандваннем; другі — ў Белавежскай пушчы для каардынацыі дзеянняў атрадаў імя Кутузава, імя Дзяржынскага пад камандваннем Кірычэнкі і трэці — ў лесе Гута-Міхалін (друкарня, рэдакцыя, тылавы



 

# КУЛЬТУРА Ў СВЯТЛЕ ТЭЗІСАЎ НА V З'ЕЗД ПАРТЫІ

На такую тэму адбылося ў Варшаве ў Доме журналіста спатканне публіцыстаў культуры з тав. Вінцэнтам Краськам — кіраўніком Аддзела культуры Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Тав. Краська прадставіў журналістам галоўныя напрамкі культурнай дзейнасці, якія вызначаюцца ў тэзісах. Коратка аб гэтым. Партыя прыдае вялікую ўвагу культурнай палітыцы ў краіне, бачыць у культуры зброю ў ідэалагічнай барацьбе з ворагамі сацыялізма. Няма сумнення, што наша культура служыць і будзе служыць людзям працы, сацыялізму. Яе роля ў кожнай галіне жыцця вельмі вялікая і будзе ўзрастаць. Культура ва ўмовах нашай краіны, пры кіраўнічай ролі партыі, не служыць групе выбраных, а ўсім людзям: ад сталіцы да апошняй хаты ў кожнай вёсцы. Будучыня нашай культуры — гэта культура ў шырокім разуменні масавая і творчая, дзе кожны ўносіць свой уклад, сваю думку, свой узлёт.

Бліжэйшы час прынясе разбудову тэхнічнай базы культуры. Тэлевізія, радыё, газеты і часопісы, кніжка, тэатральная пастаноўка, музычнае мастацтва, дамы культуры — усё гэта ўсё большым рэчышчам паплыве з вялікіх гарадоў у паветы, вёскі. Будзе многа будавацца для культуры. Партыя ідзе на выраўнанне дыспрапорцыі ў культурным жыцці паміж горадам і вёскай, як у выкарыстоўванні культурнага дабра, так і ў яго стварэнні. Толькі сацыялізм дае магчымасці на поўнае шырокае распаўсюджванне і выкарыстанне культуры.

Тав. Краська падкрэсліў у дыскусіі вялікую ролю кожнага грамадзяніна Народнай Польшчы ў фармаванні вобліку нашай культуры і ва ўспрыйманні культурных мерапрыемстваў. (вл)

## ПЕРАДАВЫ

Да аднаго з лепшых гаспадароў вёскі Праневічы (Бельскі павет) залічваецца Міхась Кужаль. Ён заўсёды тэрмінова аплочвае падаткі і выконвае абавязковыя пастаўкі збожжа і мяса. Добры з яго таксама жывёлагадоўца. (мх)

## „Мястовы хлеб"

Жыхары вёскі штораз менш пякуць хлеб у сваіх вялікіх сялянскіх печах. Яны вельмі ахвотна купляюць «мястовы» хлеб, які прывозіцца ў іх крамы з пякарняў. Гайнаўскі ГС кожны тыдзень для вёсак у сваім раёне дастаўляе па 6 тон хлеба. Новае Беразова атрымоўвае 450 кг. (мх)




Магчыма таму ў Сухавольцах хутчэй як у іншых вёсках ліквідуюцца саламяныя стрэхі, што па дахоўку нідзе не трэба ехаць. Прадукуюць яе два рамеснікі — Сяргей Масальскі і Уладзімір Рута. А калі ўжо гаварыць аб рамесніках, дык іх тут больш, як у іншых вёсках. Ёсць два муляры, два сталяры, адзін кравец і адзін пячнік. Няма толькі каваля. А шкада, бо для яго работы было б поўныя рукі. Падкаваць каня, наладзіць плуг, ці воз трэба ехаць 4 км у Кляшчэлі. Там чатыры кавалі. Але і яны не рыхтуюць сабе змены. Не маюць вучняў. Людзі гэтыя ўжо пажылыя. Работа кавальская хаця цяжкая, але затое паплатная.

Здаецца сялянам у Сухавольцах, што прычына неахвоты да вывучэння кавальскай прафесіі ляжыць у высокіх падатках, якія аплочваюць кавалі. Гэта істотная справа, якая стрымлівае моладзь.

Няма дзе ў Сухавольцах, і не толькі ў Сухавольцах, вырабіць аўчыны. Кажухі патрэбныя, але спецыялістаў — кушняроў штораз менш. Не хапае таксама ў вёсках электрыкаў. У Сухавольцах ратуе сітуацыю тэхнік халадзячых абсталяванняў, які даязджае да працы да ГС-у ў Кляшчэлях. Лягчэй тут з цырульнікамі. Неяк самі многія выспецыязаваліся, і адны другіх зусім добра падстрыгаюць.

### ПАЖАРНАЯ КАМАНДА

Існуе ў Сухавольцах 25-асабовая пажарная каманда. Добра яна працуе. Выязджае ў акалічныя вёскі ратаваць ад агню маёмасць людзей. Нядаўна надзвычай высокую ахвярнасць праявілі сухавольскія пажарнікі ў Маленіках. Але, каб лепш магла спраўляцца гэтая грамадская арганізацыя, трэба прыдзяліць ёй неабходныя і элементарныя прылады. Не мае яна сігналу, на які ці то ноччу ці то ўдзень, збегліся б да рамізы ўсе пажарнікі. Трэба бегчы і будзіць кожнага асобна. А ў час пажару мінуты, нават секунды лічацца. Пажарнікі не маюць адпаведных каскаў, ахоўнай вопраткі. Па-суседску, як мы ўжо ўспаміналі, ёсць вёска Малінікі, якая ўжо належыць не да Гайнаўскага, а да Бельскага павета. Там значна лепей. У Малініках горшая раміза, а абсталявання і прылад у іх больш. Пажарнікі Малінік маюць нават дванаццаць святочных форменных касцюмаў.

Гаворачы пра пажарнікаў у Малініках, неабходна успомніць аб нядаўна створанай там жаночай дружыне.

### ГРАМАДСКАЙ ІНІЦЫЯТЫВАЙ І ПРАЦАЙ

У мінулым годзе жыхары Сухавольцаў пабудавалі рамізу і прасторную святліцу. Яна адразу стала спаўняць сваю ролю. Стала яна месцам вясковых сходаў, розных курсаў, спатканняў, а для моладзі — цэнтрам падрыхтоўкі мастацкай самадзейнасці і частых танцавальных вечарын. Стала добра ўсім, але можа быць яшчэ лягей. Вось таму і запланавалі грамадскім чынам пабудаваць памяшканне на кавярню. Злеўня малака таксама ў цесным прыватным памяшканні. Што датычыць пабудовы злеўні малака, дык тут ужо праяўлялася нямала грамадскай ініцыятывы. Жыхары вёскі стварылі камітэт пабудовы, купілі пляц за 8 тысяч злотых, сабралі шмат грошай і думалі ўзяцца за пабудову. ГРН і ПРН ведаюць аб гэтым, аднак пляц хочуць аддаць у арэнду для двух гаспадароў. Сяляне з Сухавольцаў напісалі заяву — скаргу да ГРН у Кляшчэлях. Пад ёю было зложана 56 подпісаў. Але яе ў ГРН не прынялі. Сказалі, што за кожны подпіс трэба плаціць 10 зл. Гэта значыць, 560 зл. трэба, каб скіраваць ад імя вёскі скаргу да сваіх мясцовых народных улад. Такім чынам падрэзваюць яны крылы грамадскай карыснай ініцыятыве. Неразумна, зусім неразумна, паступаюць.

Неразумна паступілі таксама геадэзісты падчас камасацыі зямлі. Так вывелі дарогу да суседняй вёскі, што нельга ёю карыстацца, а людзі ездзяць па полі Рыгора Качкі. Дарога вызначана праз лужок, у якім збіраецца вада. Праз тую крэкаць не прайсці і не праехаць. І вось зноў непатрэбныя клопаты вёсцы. Мясцовая ГРН мела зрабіць грэблю і было прызначана на гэта 35 тысяч злотых. Але гэтага не зрабіла: далей ездзяць людзі праз калёнію Рыгора Качкі. Прыдзецца, відавочна, самім зрабіць дарогу, цяжкай працай напраўляць памылкі землямераў.

І яшчэ адна справа, якая псуе грамадскую ініцыятыву. Перад камасацыяй жыхары Сухавольцаў пастанавілі выдзеліць пляц для патрэб развіцця спорту. І было выдзелена 2 га зямлі. Моладзь зрабіла там спартыўную пляцоўку, гуляла ў мяч. Уключаліся да спартыўных гульняў і жанатыя, старэйшыя людзі. Але нядоўга гэта працягвалася. Павятовае праўленне эксплуатацыі дарог, нікога не пытаючыся, на спартыўным пляцы зрабіла рамонтную базу. Знішчылі пляц, раскапалі, засмяцілі. І моладзь не можа ім пакуль што карыстацца.

Варта ўспомніць і аб тым, што пад мастацкім кіраўніцтвам Сяргея Масальскага моладзь Сухавольцаў падрыхтавала п'есу. На павятовым аглядзе драмгурткоў з беларускім рэпертуарам Сухавольцы занялі першае месца.

Было ім прызнана першае месца і прадстаўнік аддзела культуры абяцала, што да іх святліцы пастараецца купіць тэлевізар. З таго часу мінула паўгода, але ані тэлевізара, ані іншай узнагароды за першае месца пакуль што Сухавольцы не атрымалі. Жывуць усё надзеяй, што словы, сказаныя прадстаўніком аддзела культуры, не былі пушчаны на вецер.

Ёсць і іншыя не вырашаныя справы, а менавіта: Нягледзячы на тое, што ў Сухавольцах ёсць зараз вялікая святліца, аб'язная кінаперасоўка не заязджае. За тое часта бывае ў Саках, дзе няма столькі ахвярнасці да грамадскай працы ў жыхароў вёскі.

Сухавольцам прыдалася б таксама школа, хоць некалькі класаў, для самых малодшых дзяцей, якім цяжкавата, асабліва зімою, хадзіць на заняткі ў Сакі.

Вось усе гэтыя праблемы Сухавольцаў трэба вырашаць жыхарам вёскі пры дапамозе мясцовых улад.

**Міхась Хмялеўскі**

## З МІНУЛАГА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Паявіўся нядаўна ў продажу чарговы VII том «Беластоцкага гадавіка» (Rocznik Białostocki, t. VII), які з'яўляецца пастаянным выдавецтвам Беластоцкага музея. Амаль усе замешчаныя ў томе матэрыялы датычаць мінулага Беласточчыны — гэта артыкулы гісторыкаў, археолагаў і этнографаў, якія займаліся рознымі праблемамі Падляшша. У гэтым месцы звярну ўвагу на публікацыі, якія ў большай ці меншай ступені датычаць беларусаў.

Звяртае перш за ўсё на сябе ўвагу артыкул Аляксандры Бэргман «Камуністычная партыя Заходняй Беларусі у 1924—1928 гадах». Як вядома, Аляксандра Бэргман была першым у Польшчы аўтарам падняўшым на старонках навуковага друку праблематыку беларускага рэвалюцыйнага руху. Апублікавала яна ўжо раней артыкулы аб «Грамадзе» і яе кіраўніку Браніславе Тарашкевічу. У артыкуле, апублікаваным у апошнім томе «Беластоцкага гадавіка», Аляксандра Бэргман аналізуе беларускі рэвалюцыйны рух на тэрыторыі Польшчы да 1928 года.

На пачатку артыкула аўтар коратка характарызуе гаспадарчыя і палітычныя ўмовы, пануючыя на Заходняй Беларусі у міжваенны перыяд. А. Бэргман даходзіць да вываду, што на «крэсах» усе палітычныя групіроўкі набіралі крайняга ідэалагічнага афармлення: эндэцыя была тут значна больш рэакцыйнай, чымсьці ў цэнтральнай Польшчы, а прагрэсіўныя палітычныя плыні значна больш радыкальнымі. Класавая барацьба ставалася тут асабліва вострай таму, што сплялася яна з нацыянальным канфліктам і веравызнаўчымі падзеламі. Аўтар аналізуе ідэалагічныя праблемы КПЗБ, асабліва праблемы, якія былі прадметам II і III партыйных канферэнцый і I З'езд КПЗБ. Шмат месца прысвячае таксама палітыцы КПЗБ у нацыянальным пытанні. У артыкуле знаходзім таксама дадзеныя адносна арганізацыйнай структуры і колькаснага стану кампартыі. У заключэнні аўтар сцвярджае, што гісторыя Заходняй Беларусі, якая была ачагом рэвалюцыйнага руху, заслугоўвае на асаблівае даследванне, бо яно дапамагае зразумець многа момантаў у гісторыі ўсяе Польшчы.

Другі матэрыял у апошнім томе «Беластоцкага гадавіка», на які варта звярнуць увагу чытачоў, гэта артыкул этнографа Ежы Пакропка аб развіцці сельскагаспадарчых прыладаў на Падляшшы ў XIX і XX стагоддзях. Пакропак сцвярджае, што эканамічны прагрэс і затым і замена традыцыйных сельскагаспадарчых прыладаў сучаснымі найпазней адбыліся менавіта ў паўночна - усходніх раёнах Польшчы. Увага аўтара канцэнтруецца пры тым перад усім на замене сахі плугам і замене традыцыйных барон сучаснымі. Аўтар прыводзіць шэраг прыкладаў і ілюстрацый з беларускіх вёсак Беласточчыны. Не без асабістага задавальнення ніжэй падпісаны пазнаёміўся са сцвярджэннямі Е. Пакропка аб вялікім значэнні ваенных дзеянняў для працэса заніку традыцыйных народных прыладаў. Некалькі гадоў таму назад прыходзілася мне гаварыць, між іншым, на старонках «Нівы» аб вялікім значэнні I сусветнай вайны ў замене традыцыйных форм народнай культуры, у тым ліку і традыцыйных адсталых гаспадарчых прыладаў.

З іншых публікацый VII тома «Беластоцкага гадавіка» варта звярнуць увагу на інфармацыйны матэрыял Б. Нікіцюка і В. Рудчыка аб папулярна-навуковай сесіі, прысвечанай 40 гадавіне «Грамады», і артыкул З. Клейна аб пачатках чыгункі Варшава—Беласток — Пецярбург.

**Ул. Паўлючук**

шпіталь і іншыя службы) пад камандаваннем камісара Чуркіна.

Канцэнтрацыя буйных партызанскіх сіл у Белавежскай пушчы і ў раёнах на захад ад яе была заўважана варожымі гарнізонамі Белавежы, Гайнаўкі, Бельска і нават Беластока. Гестапаўцы пачалі рыхтаваць аперацыю па даўно выпрабаванаму метаду. І трэба сказаць, што ім удалося нанесці нам значны ўрон. У атрад імя Дзяржынскага пранікла група здраднікаў на чале са шпікам Ежы Ліпчынскім, якой удалося падрыхтаваць начны налёт на штаб брыгады і атрад імя Дзяржынскага. Гэта адбылося 6 мая 1944 года. Усе спалі. Ежы Ліпчынскі правёў фашыстаў густымі зараснікамі, абмінуўшы нашы пасты. Гітлераўцы разлічвалі нечаканым ударам знішчыць увесь штаб і нанесці гэтым рашаючы ўдар па брыгадзе. Ураганны агонь ворага разбудзіў партызан і застаў іх непадрыхтаванымі да абароны. Але ўсе ведалі шлях адступлення ў выпадку нечаканага налёту і задуманы фашыстамі план сарваўся.

Яны разлічвалі прымусіць уцалеўшых партызан адступаць з 211 квартала на захад, дзе прасціраецца вялікая чыстая ад зараснікаў паляна і там дабіць іх. Мы прарвалі ланцуг ворага з усходняга боку, ў 212 квартал, і выйшлі з акружэння ў глыб пушчы. Але страты нашы былі вялікімі, 4 забітых і 6 параненых.

Варожы план разгрому нашай брыгады быў сарваны. Усё ж мы апынуліся ў даволі цяжкім становішчы. У нас ужо было 8 параненых партызан, якія лячыліся ў сакрэтным шпіталі паблізу ракі Лутоўня, ды яшчэ дабавілася 6 чалавек пасля начнога бою. Давялося вызваліць Аляксандра Юрчука ад абавязкаў камандзіра атрада імя Дзяржынскага і назначыць яго начальнікам шпіталя, а камандзірам атрада назначылі Івана Касаўчанку.

Немцы зрабілі яшчэ некалькі спроб разграміць штаб брыгады, але іх планы зрываліся нашай разведкай. Мы добра вывучылі варожую тактыку барацьбы і закрылі ўсе шляхі для іх лазутчыкаў.

Закончыўся перыяд арганізацыі і размяшчэння баявых сіл брыгады на новым месцы і ў новых умовах. Чырвоная Армія граміла нямецкія полчышчы на ўсіх франтах, гітлераўская армія качілася на захад. Пачаўся новы перыяд барацьбы нашых партызан за выратаванне прамысловых аб'ектаў, дарог і мастоў, населеных пунктаў і дзяржаўных маёнткаў ад разбурэння адступаючымі фашысцкімі зграямі.




### МАР'ЯННА.

Фільм малдаўскай прадукцыі. Зроблены па аўтабіяграфічнай аповесці малдаўскай журналісткі, якая расказала ў ёй сваю ўласную гісторыю, калі мела 17 год і была савецкім разведчыкам на акупаванай Малдавіі, Украіне і Польшчы. І звалася Мар'яннай.

Аўтар — Праскоўя Дзідык так успамінае: «Было гэта маё першае заданне. Я не мела вопыту, не знала тайнаў разведкі. Хацела толькі памагчы Радзіме ў цяжкі час. Сувязь з цэнтраллю трымала праз радыёстанцыю. Перадала ў Маскву многа вельмі важных вестак. Атрымала за гэта Чырвоную Зорку».

А вось кароткі змест фільма. Савецкая авіяцыя бамбардзіруе германскі аэрадром, але ўсе атакі не прыносяць карысці. Расшыфраваць загадку камандванне высылае радыётэлеграфістку Мар'янну. Яна здабывае вядомасць, што германскі аэрадром знаходзіцца пад зямлёй.

### «ЖЭНЯ, ЖЭНЕЧКА і КАЦЮША».

Таксама савецкі фільм аб вайне, але крыху весялей. Расказвае ён пра маладога артылерыста кацюшы — Жэню Калышкіна, якога сябры лічаць дзіваком. Усё не вядзецца Жэню, але з усяго выходзіць ён цэлы. Кахае Жэнечку і гэта памагае яму ў многім. Абое даходзяць да Берліна, дзе Жэнечка памірае ад кулі гітлераўцаў. Жэня мужнее, вырастае на свядомага мужчыну і салдата.

### «ЧЫНГІСХАН».

Фільм англійска - югаслаўска - германскі (ГФР). Гэта велізарны гістарычны фільм, каляровы, даражэзны.

Гісторыя Чынгісхана сапраўдная (а ў фільме яна паказана наогул дакладна) такая:

Сын аднаго з мангольскіх правадыроў, званы Тамуджынам, аб'яднаў каля 1202 года ўсе мангольскія плямёны і ў 1206 годзе абвясціўся Чынгісханам — гэта значыць ханам ханаў. Рушыў і заваяваў Паўночны Кітай, Карэю, Харэзм, Туркестан, Грузію, Крым, перамог рускія войскі. Памёр у 1227 годзе ў час паходу на Кітай.

### ТЭЛЕВІЗІЙНЫЯ ФІЛЬМЫ.

«Стаўка большая ад жыцця».

Вядуцца здымкі да шасці адрэзкаў III серыі гэтага фільма. Загалоўкі адрэзкаў: Hasło, Przedostatni seans, Podpis pod wyrokiem, W imieniu Rzeczypospolitej, Akcja „Liść dębu", Bez instrukcji.

Галоўная роля — Станіслаў Мікульскі. II і I серыі, па шэсць адрэзкаў кожная, ужо выпрадукаваны і ўвойдуць на тэлевізійныя экраны.

«Чатыры танкісты і сабака».

Таксама новых шэсць адрэзкаў папулярнага фільма знаходзіцца ў прадукцыі. Загалоўкі: Zamiana, Kwadrans po nieparzystej, Wojenny siew, Fort Olgierd, Zakład o śmierć, Czerwona seria.

(вл)



**6 жніўня 1945 года амерыканцы скінулі атамную бомбу на японскі горад Хірасіму, а 8 жніўня — на Нагасакі. Памятнік дзецям — ахвярам атамнай бомбы.**

# ТЭХНІКА

### ДОЖДЖ МЫЕ ДОМ

Група архітэктараў і металургаў ГДР стварыла новы абліцовачны матэрыял для знадворных сцен дамоў — пласцінкі з тонкай бляхі, якія пакрыты каляровай эмаллю. Гэтыя пласцінкі былі апрабаваны на будаўніцтва 10-павярховага дома ў Гале. Аказалася, што пасля кожнага дажджу дом блішчыць: кроплі дажджу даволі хутка змываюць са сцен пыл і бруд. Такая абліцоўка будзе вельмі добрай для прамысловых раёнаў, дзе больш за ўсё забруджванняў.

### ЧЫТАЮЧЫ АЎТАМАТ

Да гэтага часу нашы электроннавылічальныя машыны здольны апрацоўваць толькі лічбовую інфармацыю. Але як быць, калі патрэбна расшыфраваць звесткі ў выглядзе асцылаграм, кардыяграм, графікаў, і іншых крывых? У такіх выпадках спецыяліст дакладна вымярае адлегласць ад пункта на графіках да зададзенай лініі. Затым гэтыя звесткі перадаюцца апаратару, які наносіць іх на папяровую стужку ў выглядзе камбінацый.

У Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі АН БССР створан шматканальны аўтамат чытання крывых. Работу, на якую затрачваецца 25—30 гадзін, ён выконвае за 15 секунд, прычым без памылак. Аўтамат дэманстраваўся на юбілейнай Усесаюзнай выстаўцы народнай гаспадаркі СССР.

### ПОМПА-ВОЛАТ

Цэлую раку вады можа перапампаваць машына, якая створана на ўральскім заводзе гідрамашын імя Я. М. Свярдлова. Яе прадукцыйнасць — 140 тысяч кубічных метраў у гадзіну. А вышыня — 25 метраў.

У жыцці чалавека вялікую ролю адыгрывае вітамін С. Калі яго не хапае, арганізм чалавека знясільваецца, з'яўляецца стомленасць, чалавек кепска спіць, робіцца раздражняльны, успрымае лёгка інфекцыйныя захворванні. У арганізме гэты вітамін не збіраецца, таму яго трэба штодня прымаць з ежай. Галоўнай яго крыніцай з'яўляецца гародніна і фрукты. Але свежыя фрукты не бываюць круглы год. Таму летам трэба падумаць, як сябе забяспечыць імі на зіму і вясну.

Больш за ўсё вітаміну С у чорных парэчках. Навуковыя даследванні вучоных паказалі, што штодзённае ўжыванне соку чорных парэчак падтрымлівае эластычнасць капіляраў, засцерагае ад кровазліцця, прастуды і інфекцыйных хвароб, паляпшае дзей-




насць малочных залоз у кармячых жанчын, папярэджвае прамянёвую хваробу. Сокамі і сіропам з чорных парэчак вельмі добра наталіць смагу пры спякоце. Іх рэкамендуюць ужываць пры хваробах нырак, пры раматусе, павышаным крывяным ціску, атэрасклерозе і іншых захворваннях.

Вітаміну С чорныя парэчкі ўтрымліваюць у некалькі разоў больш, як лімон, у 10—12 разоў больш за яблыкі і ў 100 разоў больш за вінаград. Нават пасля 6-месячнага захоўвання ў соку чорных парэчках застаецца 80% першапачатковага ўтрымання вітаміну. Акрамя вітаміну С, чорныя парэчкі ўтрымліваюць вітамін Р і А, фруктовыя кіслоты, цукар і эфірнае масла. Спецыфічны водар і высокае ўтрыманне кіслот абмяжоўваюць ужыванне чорных парэчак у свежым выглядзе, а таму вельмі важна нарыхтаваць іх на зіму.

### СІРОП З ЧОРНЫХ ПАРЭЧАК

Парэчкі перабраць, выдаліць галінкі, памыць і пасушыць. У чыстую бутэльку засыпаць падрыхтаваныя парэчкі пластамі, перасыпаючы кожны пласт цукрам і ўтрасаючы, каб цукар добра перамяшаўся з ягадамі. Зверху насыпаць тоўсты слой цукру, затым закаркаваць і заліць корак парафінам, каб абмежаваць доступ паветра. Захоўваць сіроп трэба ў цёмным вільготным месцы. На кілаграм ягад — кілаграм цукру. Ужываць такі сіроп трэба, разбаўляючы вадой. З ягад пасля можна варыць кісель.

Сок з парэчак можна падаваць да крэмаў, пудзінгаў, рабіць з яго кактэйлі, жэле, напіткі.




Вузкая доўгая пячора. Злева, уздоўж сцяны нары, на якіх спяць плыўцы. Над галавой кожнага таблічка. Дваццаць дзве таблічкі. Прозвішчаў няма, толькі імя.

У канцы пячоры, наўскос ад нар, умураваны ў падлогу металічны ложак, на якім цяпер ляжыць Карцаў.

Паміж ложкам і выхадам з памяшкання — вар'яты, даручаныя яго нагляду. Хай здарыцца дрэннае — і яму адсюль не выбрацца.

Нары патанаюць у паўзмроку. Адтуль даносіцца цяжкае дыханне спячых. У канцы пячоры рух, енк. Плывец сеў на нарах, трэ кулаком вочы.

— Лягай, — камандуе Карцаў, — зараз жа лягай, Оскар! Спаць, Оскар, спаць!

Чалавек пакорліва лягае.

Карцаў доўга ляжыць з закрытымі вачыма. Дарма. Сон не прыходзіць.

Крокі ў калідоры. Памалу адчыняюцца цяжкія дзверы. Ён зрываецца з ложка, уключае святло.

Ля дзвярэй Абст. А за ім у змроку тунеля стаіць нехта яшчэ.

— Усё ў парадку, Рэйнхельт?

— Так, шэф. — Карцаў ідзе насустрач. — Толькі Оскар вядзе сябе неспакойна.

— Што менавіта? Сімптомы?

Абст падыходзіць да нараў, нахіляецца і доўга глядзіць на плыўца.

— Раніцай даставіце яго да мяне. Вельмі добра, што не ўпускаеце ніводнай дробязі, Рэйнхельт. Я задаволены вамі.

Карцаў механічна ківае. Ён думае аб тым, хто стаіць за дзвярыма. Чалавека ледзь відаць. Але гэта не Глюк і не Вальтэр.

Між тым Абст сядае на ложак.

Сядае і Карцаў. Упершыню ён бачыць Абста нясголеным. Дзіўна выглядае Абст.

— Змучыўся, — гаворыць ён, перахапіўшы позірк Карцава. — Вельмі змучыўся, Рэйнхельт. І гэта не толькі фізічная змучанасць. Сказаць па-праўдзе, тут і загаварыць няма да каго, апрача вас... Дык вось, я прышоў, каб сказаць: чакае нас напружаная работа. Я чакаю гасцей. Сярод іх мае сябры і той-сёй, каму я падначалены. Яны прыбудуць сюды, каб глянуць на наша сховішча. А потым усе мы возьмем удзел у важнай аперацыі. І я хачу прасіць вас здвоіць намаганні па лячэнню Рышэр. Да іх прыезду яна павінна быць на нагах... Дарэчы, вы атрымаеце магчымасць зараз жа ад'ехаць.

«Зараз жа ад'ехаць»! Пасля гутаркі з Мартай Карцаву да канца зразумелы змест слоў Абста.

— Які тэрмін, шэф? — пытае ён, намагаючыся, каб голас гучаў будзённа, роўна.

— Не больш як тыдзень. Сем-восем дзён.

— Я пастараюся.

— Вельмі добра. Спяшайцеся, Рэйнхельт. Вас даўно чакаюць у Германіі.

— Дзякую. Адно пытанне: я адпраўлюся разам з фроляйн Рышэр?

— Яна застанецца. Вы сустрэнецеся з ёй пазней.

І Абст па-сяброўску хлопае Карцава па калене.

— Дзякую, шэф, — Карцаў выглядае збянтэжаным. — Вы вельмі добры да мяне. Хацеў бы я адплаціць вам той жа манетай.

— Вы і так робіце дастаткова, Рэйнхельт... Цяпер аб тым, што датычыць асабіста вас. Вы праплылі дзесяткі міль бурнага мора. Вытрымаўшы гэта выпрабаванне, вы паказалі сябе сільным і валявым чалавекам.

— Я толькі ратаваўся.

— Ну, ну, не скромнічайце! Я раблю вывад: вы не толькі валявы чалавек, але і дасканалы плывец. Вось я і падумаў: а што, калі наш малады, энергічны лекар навучыцца працаваць пад вадой? Чым ён горшы за Глюка ці, скажам, мяне самога? Трэба толькі даць яму папрактыкавацца рэспіратарам і іншымі прыладамі... Я правільна думаю?

— Вядома, шэф.

— У вас ёсць такое жаданне?

— Я згодны, — адказвае Карцаў. — Больш таго, вашу прапанову я ацэньваю як вялікі давер да мяне.

— Вось і цудоўна! — Абст устае. — Да трэніровак прыступіце заўтра. Я дам указанні Глюку. Ён будзе нашым інструктарам.

— Глюк — слаўны хлопец.

— Цудоўна! — паўтарае Абст. — А цяпер прыміце яшчэ аднаго ў вашу групу... Уваходзь! — гаворыць Абст таму, хто ўвесь гэты час стаяў у калідоры.

Чалавек пераступае парог.

— Называецца Бруна, — гаворыць Абст. — Лягай, Бруна! — Ён рукой паказвае на нары: — Лягай і спі!

Чалавек ідзе да нараў, лягае і спакойна закрывае вочы.

— Бедны! — уздыхае Абст. — Коль-

# ТРЫБУНА чытачоў

## СЯМЯЦІЦКАЯ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

На тэрыторыі Сямяціцкага павета існуе чатыры буйныя прамысловыя прадпрыемствы. Да іх залічваюцца Мельніцкі крэйдавы завод, завод будаўнічай керамікі, завод скуранай прамысловасці і Павятовае рамонтна-будаўнічае прадпрыемства. Нядаўна Павятовая рада нарадовая ў Сямяцічах разглядала справу рэалізацыі пастаноў VII Пленума ЦК ПАРП. Сесія рады дала станоўчую ацэнку рэалізацыі пастаноў Пленума і паказала на некаторыя недахопы, а таксама выпрацавала генеральныя заданні на будучыню.

У матэрыялах з сесіі чытаем між іншым, што валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі павета ўзрасла ў параўнанні да 1960 г. на 320 мільёнаў зл. і ў 1967 г. склала 1.250 мільёнаў зл. Валавая прадукцыя прамысловых адзінак пабольшылася з 206,3 мільёна зл. у 1965 г. да 238,3 мільёна ў 1967 годзе. За ўспамянуты перыяд дэталічны продаж пабольшыўся з 362,1 млн. зл. да 438,6 млн зл.

У Сямяціцкай прамысловасці зараз працуе больш 1,5 тысячы людзей.

(Ак)

## ПАБУДУЕЦЦА



**Юрка Рубчэўскі ў час працы.**

Пры школе ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) пабудуецца новы гаспадарчы будынак з пустакаў. Ужо зроблена 3 тысячы пустакаў. Пустакі робіць Юрка Рубчэўскі з вёскі Церамкі (Гайнаўскі пав.).

Я. Ц.

## ДОБРЫЯ ВЫНІКІ

Гайнаўскі ГС дасягае добрых вынікаў. У мінулым 1967 годзе Гайнаўскі ГС добра працаваў і выпрацаваў 2250 тыс. зл. чыстага даходу. З гэтай сумы 160 тыс. было прызнана да падзелу сярод працаўнікоў гэтай установы.

— Гэты год таксама закончыцца добрымі, а мо нават і лепшымі вынікамі, — гаварыў прэзэс Мікола Клімюк.

(мх)




**Дарагое Сэрцайка!**

Тры месяцы таму я пазнаёмілася з Федзем, хлопцам з суседняй вёскі. У нас была забава і ён прыехаў з іншымі хлопцамі. Мне Федзя вельмі падабаецца, я яму таксама. Мы пачалі часта сустракацца — кожную нядзелю, а нават часта і сярод тыдня. Ён мае матацыкл, таму няма ніякай праблемы. Аднойчы мы гаварылі нават аб жаніцьбе. Але я, праўду кажучы, баюся выходзіць замуж за Федзю, хоць здаецца, прыгажэйшага хлапца і няма. Федзя замнога п'е гарэлку. Часта ўпіваецца і прыходзіць да мяне п'яны. Гэта не падабаецца вельмі маім бацькам, якія сказалі мне, што ніколі не пазволяць мне выйсці замуж за п'яніцу. Я аб гэтым сказала Федзю і ён кляўся, што калі ажэніцца, дык напэўна перастане піць, бо вельмі мяне кахае. Заўсёды пры першай сустрэчы пасля п'янкі мяне перапрашае і абяцае, што больш не будзе піць, аднак гэта не памагае. Парай, Сэрцайка, што рабіць, ці верыць Федзю і выйсці за яго замуж? Але як пераканаць бацькоў?

**Аня**

з Сямяціцкага павета

**Дарагая Аня!** Бацькоў пераконваць не трэба, яны тут аднак маюць рацыю. Трэба пераканаць перш за ўсё Федзю ў тым, што ён павінен адрачыся ад гарэлкі цяпер, перад шлюбам, а не потым. І ты тут мусіш быць станоўчая. Проста скажы, калі Федзя не перастане так часта піць, не будзеш з ім сустракацца. Аднак будзь станоўчая. Цяжка сказаць, ці ён мае настолькі сільную волю, каб для гэтай справы пазбыцца прывычкі, аднак спрабаваць трэба. Вы ж кахаеце адзін другога, таму трэба ўсё зрабіць, каб Федзя перастаў піць. Калі не паможа гэта, не раіла б табе, Аня, верыць у яго словы. Тады ўжо будзе запозна. А лёс жонак, якіх мужы любяць піць, вядомы.

**Сэрцайка**

## КУРС ДЛЯ РАТАЎНІКОЎ



...адбыўся нядаўна ў Гайнаўцы. На курсе ўдзельнічала 30 хлопцаў і мужчын з Гайнаўскага, Бельскага і Сямяціцкага паветаў. Пасля экзаменаў многія з іх будуць працаваць ратаўнікамі на многіх купальнях. Усе яны за згодаю ТККФіТ будуць магчы арганізаваць экзамены на атрыманне плывацкай карты.

Варта дадаць, што ўсё яшчэ замалыя маем кадры ратаўнікоў і таму такога роду курсы Таварыства пашырэння культуры фізічнай павінны арганізаваць часцей і шырэй. Як ратаваць тапельца вучыць інструктар Сяргей Тарасевіч з Беластока.

**Я. Цялушэцкі**

## ПАТРЭБНЫЯ БУДКІ ПКС

Як едзеш аўтобусам у Гайнаўку, прыемна паглядзець, што на кожным прыпынку ПКС стаіць пабудаваная будка, каб пасажыры маглі схавацца ад дажджу ці ветру.

Неяк наадварот дзеецца ў самой Гайнаўцы, дзе няма аніякай будкі, каб чакаючым у непагадзь на аўтобус было дзе схавацца ад дажджу. Праўда, у Гайнаўцы няма аўтобуснай касы і пасажыры нават не ведаюць, куды які ПКС ад'язджае. Калі прыедзе ПКС, то ўсе бягуць да яго і кожны стараецца, каб улезці першаму ў аўтобус. А потым не можа вылезці назад, бо даведаўся, што аўтобус едзе ў другім напрамку. Адным словам, у Гайнаўцы на прыпынку ПКС вялікі балаган.

Таксама дзеецца і ў Нарве. Калі хоча хто куды ехаць, то ўсе чакаюць у ГС, а пакойчык невялікі, і калі грамадзянін хоча ўладзіць у ГС-е якія-небудзь справы, то за пасажырамі цяжка прайсці. А ў Трасцянцы ўсе пасажыры ПКС хаваюцца ад непагадзі на пошце і тут падымаюць розныя гутаркі, а начальніку пошты перашкаджаюць працаваць. Калі хто-небудзь зайдзе пазваніць з пошты, то нават часам цяжка дагаварыцца, такі шум на пошце. А каб былі будкі ПКС, усяго гэтага не было б.

**«Ярош»**

Гайнаўскі павет

## НАЙТЛУСЦЕЙШАЕ МАЛАКО

Млечаром у Сухавольцах (Гайнаўшчына) з'яўляецца Яраслаў Герасімюк. Як сцвярджае ён, найтлусцейшае малако (0,5%) даюць каровы Дзімітра Нігірэвіча. Вось таму ён амаль на 1 зл. больш атрымоўвае за кожны літр малака ў параўнанні да іншых дастаўшчыкаў малака.

Кожны месяц сяляне Сухавольцаў атрымоўваюць за малако больш 50 тысяч зл.

(мх)

## У ГАЙНАЎСКІМ ПРЭЗІДЫУМЕ ПРН

На працягу 7 месяцаў (ад 1 снежня 67 г. да 15 чэрвеня 1968 г.) Прэзідыум Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы меў 20 пасяджэнняў. У выніку разглядання розных спраў з розных галін гаспадаркі, асветы і культуры прынята 54 пастановы. Найбольш пастаноў (14) датычыла сельскай гаспадаркі і лясніцтва. 13 пастаноў датычыла арганізацыйных спраў, 7 — фінансавых, 6 — будаўніцтва і іншых.

З вышэй прыведзенай колькасці 22 пастановы мела праблемны характар, а 32 пастановы мелі характар адміністрацыйных актаў.

(ак)

---

кі не біліся з ім — ніякіх зрухаў. На жаль, безнадзейны.

І ён выходзіць.

Карцаў сядае на ложак, сціскае далонямі галаву.

Так праходзіць некалькі мінут.

Навічок спіць, роўна і глыбока дыхае.

Карцаў нахіляецца да яго твару, даследуе позіркам лоб, вочныя яблыкі, скроні.

Ніякіх слядоў аперацыі.

Ён зноў, яшчэ дакладней, вывучае твар чалавека. Правая павека чыстая. А на левай, зверху, амаль пад самым брывом; невялікі цёмны струпік.

Кроў!

Вось адкуль прасачыўся ў мозг тонкі рэжучы інструмент. І так, Абст расправіўся з чарговай ахвярай. А ў падзямеллі чакаюць сваёй чаргі яшчэ чацвёра. Заўтра, не, можа ўжо сёння іх сустрэне той жа лёс.

У навічка аголеныя грудзі. На цёмнай скуры фіялетавая татуіроўка: скрыжаваныя вёслы і вадалазны шлём з круглым ілюмінатарам. А пад рысункам тэкст: «Маці Божая, ахоўвай слаўнага хлопца Бруна Гарыту. Спецыя, 1938 год».

Надпіс на італьянскай мове.

Карцаў памалу ідзе ў канец пячоры. Спыняецца ля спячага пад таблічкай «Марка». У Марка круглы твар, поўныя губы, русая барада.

Хто ён — серб балгарын? Можа, украінец?

Побач ляжыць Зігмунт — гэты, відаць, паляк. А сюды могуць даставіць і рускіх, і амерыканцаў, і англічан!

Карцаву здаецца — ён бачыць германскія лагеры ваеннапалонных з натоўпамі асуджаных на знішчэнне людзей, бачыць агентаў Абста, якія перабіраюць картатэкі, апытваюць вязняў, мацаюць ім мускулы... Гэта спецыялісты, якіх не трэба вучыць працы пад вадой. Іх на падводных лодках дастаўляюць сюды.

Карцаў бачыць разбураныя гарады і вёскі. І усюды — трупы, тысячы трупаў.

Ці трэба здзіўляцца таму, што творыць у сваім тайным логаве Артур Абст? Тое, што ён робіць з нейкімі дзесяткамі людзей, Гітлер намераны здзейсніць з мільёнамі.

Раптам Карцаў сціскае кулакі. Ён зразумеў задуму Абста, які запрапанаваў яму вывучыць рамяство вадалаза. Ён, Карцаў, будзе знішчаны не адразу. Спярша ён паддасца аперацыі і зойме месца на гэтых жа нарах!

**(Працяг будзе)**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Przybycie tytanów" (włoski), 6—7. „Pamiętnik pani doktór" (francuski), 8—9. „Hatari" (USA), 10—11.

**Дубіны**

„Bumerang" (polski), „Galia" (franc.), 10—11.

**Нараўка**

„Pamiętnik pani Hanki" (polski), „Potem nastąpi cisza" (polski), 7—11.

**Нарва**

„Nikt nie chciał umierać" (radz.), „Skąpani w ogniu" (polski), 7—11.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Chewzburska ballada" (radz.) „Trema" (USA), 7—11.

**Орля**

„Pamiętnik pani Hanki" (polski), „Potem nastąpi cisza" (polski), 7—11.

**Райск**

„Fanfan Tulipan" (franc.), „Głosuję na miłość" (jugosł.), 7—11.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Pamiętnik pani doktór" (franc.), „Lekarstwo na miłość" (polski), 6—9.

**Міхалова**

„Dwie noce jednego dnia" (węgierski), 6—7. „Banda" (polski), 8—9. „Testament gangstera" (franc.), 10—11.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Beata" (polski), 6—7. „Film z czarującą dziewczyną" (rumuński), 8—9. „Żywot Mateusza" (polski), 10—11.

**Шудзялава**

„Kaukazka branka" (radz.), „Ludzie w hotelu" (USA), 7—11.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Powrót na ziemię" (polski), „Pamiętnik pani Hanki" (polski), 10—11.

**Ліпск**

„Partyzänckim szlakiem" (jugosł.), „Pałace w płomieniach" (rumuński), 10—11.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do - 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 6957



Меў столькі свядомасці, што частку яе прадаваў за грошы.

### ВЫЯСНЕННЕ

— Чаму ашукоўваеш людзей, якія так табе вераць?

— Таму, што тых, якія мне не вераць, не магу ашукаць.

### МЕНЮ

— Вельмі люблю падхалімаж. Так цасканала тады сябе адчуваю, лепш, чым пасля чаркі, а ў дадатку не шкодзіць на пячонку.



— Мяне цікавіць, што ты сказала б, каб я цябе пацалаваў.





Але гэтыя шкоты ашчадныя.

### АБОДВА ВІНАВАТЫ

— Слухай сусед, чаму ты так набіў свайго сына? У чым ён правініўся?

— Ён быў п'яны.

### КУЛЬТАЕ

Малады чалавек звяртаецца да свата з прэтэнзіяй пасля візіту ў прапанаванай нарачонай:

— Што ты мне прапануеш? Яна ж культае.

— Але толькі калі ходзіць, — адказаў сват.

### ЛЮБОЎ

— Ці кахаеш мяне?

— Страшна.

— А памёр бы для мяне?

— О, не. Мая любоў несмяротная.

### ІЛЮЗІІ

Маладая дзяўчына звяртаецца да маці: — Мама, ведаеш, ён сказаў, што я наймілейшая дзяўчына на свеце. Ці магу яго запрасіць дахаты?

— Не, няхай лепш далей так думае.




### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**Па просьбе Барыса Налоцкага з Азяблаў, Беластоцкага павета, змяшчаем песню**

## Где-то в поселке

**Ветки сирени стучат мне в окошко,**
**Долго уснуть не дают.**
**Где-то в поселке играет гармошка,**
**Девушки песни поют.**
**Песни поют, песни поют,**
**Девушки песни поют.**

**Майская зорька на небе алеет,**
**Сосны обнявшись стоят.**
**Может быть, там, по тенистым аллеям,**
**Ходит подружка моя.**
**Ходит подружка, ходит подружка,**
**Ходит подружка моя.**

**Серпик луны серебрит ей дорогу,**
**Ноги полощет роса.**
**Чем я её огорчил, недотрогу,**
**Что не по сердцу сказал?**
**Что не по сердцу, что не по сердцу,**
**Что не по сердцу сказал?**

**Ветки сирени стучат мне в окошко,**
**Спать до утра не дают.**
**Где-то в поселке играет гармошка,**
**Девушки песни поют.**
**Песни поют, песни поют,**
**Девушки песни поют.**

### ПРА БУСЛА

— Сярожка! — сказаў бацька да сына. — Бусел прынёс табе сястрычку. Ці хочаш яе пабачыць?

— Не, я хацеў бы пабачыць бусла.

### НЕ ПРАДБАЧЫЎ

— Ах, — уздыхае Росі, — меў я ўсё, аб чым чалавек можа толькі марыць. Грошы, прыгожы дом, мілую жанчыну...

— І што сталася?

— Мая вярнулася тыдзень раней, чым я прадбачваў.

### ШЧЫРАСЦЬ

Кавалер да дзяўчыны:

— Буду з табою шчыры. Ты не з'яўляешся першай дзяўчынай, якую я цалаваў.

— Калі так, дык я буду шчыра. Мусіш яшчэ многаму навучыцца.






Вучням адной лонданскай школы задалі напісаць сачыненне на тэму: «Калі б я быў дырэктарам». Усе хлопцы старанна заскрыпелі перамі, толькі адзін не пісаў. Сядзеў ён, злажыўшы рукі.

— Чаму ты не пішаш? — запытаў у яго настаўнік.

— Чакаю сакратарку, — адказаў Томі.

*

Містэр Шмідт з Нью-Йорка атрымаў ліст, адрасаваны аднафамільцу, які меў сваю фабрыку. У пісьме было напісана: «Сэр, калі вы на працягу трох дзён не вышлеце дзесяць тысяч долараў на паданы ніжэй адрас, мы схопім вашу жонку і заб'ем яе».

Адказ містэра Шмідта быў такі: «Я не той Шмідт, што мае фабрыку, але спяшаюся паведаміць, што вашая прапанова вельмі мяне зацікавіла».

*

У Капенгагене на вечары, які прысвяцілі абмеркаванню этычных праблем, задалі пытанне: «Хто ў час навальніцы ноччу павінен устаць і зачыніць вокны: муж ці жонка?» Лепшым быў прызнаны адказ 72-гадовай дамы: «Заўсёды той, на чый ложак трапіць дождж!»

# НЕЗВЫЧАЙНЫ СЛУП

Незвычайны слуп ёсць у нас на Заблудаўшчыне, каля шашы ў вёсцы Ахрэмавічы. Агабляваны, памаляваны, а замест капелюша ці моднага берэта наверсе ўпрыгожаны паўкруглай дошчачкай з напісам П.К.С. Каля слупа прымасцілася на крывых калочках вузенькая і кароценькая лаўка. А пабудова будкі-прыстанка, схованкі для падарожных ад дажджу ці завейкі, сялянам Ахрэмавіч і ў галаву не прыходзіла. Бо й нашто, калі ў кожнага хата недалёка. Далейшыя ж вёскі, як Малынка ці Каўпакі, задавальняліся месцам пад страхою хаты старога Андрыяна, а ў завею ці мароз мелі звычай усунуцца й да цёплай хаты.

Нездаволены былі заўсёды толькі жыхары вёскі Альшанка, найбліжэй палажанай, на другі бок шашы ад Ахрэмавіч. Нездаволены ад часу пабудовы шашы, калі быў укапаны прыстанкавы слуп у Ахрэмавічах.

— Чаму не ў Альшанцы?! — крычалі альшанкаўцы, — а калі гэтак, чаму Ахрэмавічы не пабудуюць будку? Улада са свайго боку, з мэтай падагнаць да хуткага чыну, уставіла сваю рэпліку да спрэчкі вёсак: якая вёска хутчэй пабудуе будку, там і будзе прыстанак.

Пакуль Ахрэмавічы думалі-гадалі, альшанкаўцы будку збудавалі. У гэты «гмах», калі б трое ўціснулася, дык чацвёрты ў дзвярах застраг бы.

Праўда, нядоўга шпэціў шашу альшанікі цуд архітэктуры. Не паспела і камісія агледзець, як нейкай ночы знік з відоўні.

Альшанкаўцы ад той страты нядоўга гаравалі, аднак з году ў год клапаціцца не перасталі аб пераносе прыстанка з Ахрэмавіч да Альшанкі.

Даронжыя ўлады ўрэшце сёлета ў маі месяцы перанеслі прыстанак без саламонавай мудрасці, а згодна з прыказкай: «Каб воўк быў сыты і каза цэла» — уставілі новае месца для прыстанка ПКС паміж вёскамі Ахрэмавічы і Альшанка ў чыстым полі, куды адразу ж быў перанесены і закапаны незвычайны слуп. А тое ўсім вёскам выйшла, як у горла дышла. Альшанцы нядобра, бо ў полі, а не ў вёсцы, Ахрэмавічам аж надта нявыгадна, а Малынцы і Каўпакам зусім дрэнна — не па дарозе і нязручна. Спешна камусь, дык трэба падскочыць да прыстанка матацыклам або ровэрам. Але не пакінеш жа яго ў чыстым полі, то ж не вёска, што не цесна паставіць да звяртання на любым панадворку. Даводзіцца часта і густа падвезці ці пад'ехаць на пасажыра. А дзе дзенешся з фурманкай? Паабапал шашы равы, за равамі засевы збожжа, на шашы рух. Не тое, што ў Ахрэмавічах, дзе вуліца шырачэзная, як у ваяводскім горадзе.

І было б так можа з тым недарэчным перанясеннем прыстанка мо і да сканчэння свету. Людзі пабалбаталі б, пасмуціліся б і перасталі б, каб пэўнай маёвай ночы не стаўся цуд. А вядома, заблудоўская старана, з'ява і цуд не навіна. Прачнуўся ранічай стары Андрыян, зірнуў у акно і ўбачыў насупраць свае хаты на старым месцы той самы прыстанкавы слуп. Не верачы сваім вачам, з уцехі, як быў у ісподніх портках і на босу нагу, выскачыў на вуліцу і, абмацаўшы слуп рукамі, загаласіў на ўсю вуліцу: «Людкове! Слуп з'явіўся!» Як токам электрычным праляцела вёску гэта навіна. У міг вока зляцеліся ўсе Ахрэмавічы да слупа. Дзіву і пацесе не было канца, а канцавы Юзік са сваёй Ганкай на'т найношу навокал слупа гапака. Калі адазваўся Васіль Жук, заўсёды на слова скупы, а калі што скажа, то як звяжа, дык увесь натоўп змоўк не знарок, а Жуку ў рот скіраваў свой узрок.

— Даволі дурніць, людкове, — прабубніў густым басам Васіль, — ракеты з космасу вяртаюцца, чаго ж здзіўляцца, калі слуп вярнуўся на старое месца да асірочанай свае лаўкі, з якой за столькі год зжыўся, як кожны з нас са сваёй жонкай. Няма чаго, людцы, траціць час дарма па-пустому, вазьмецеся зараз жа ўсёй вёскай будаваць будку, як след. Як будка стане, то і слуп на свеце вандраваць перастане. Ці добрая мая рада, сяляне?

— Добра! Добра! — адгукнуліся, як адзін, усе Ахрэмавічы і ўсе, як адзін, у той жа дзень узяліся да будовы. Дружна закіпела праца. Знайшоўся і матэрыял, знайшліся і муляры, майстры, будынак рос з дня на дзень, а за тыдзень стаў скончаны і ў сярэдзіне памаляваны. У тым часе амбітны начальнік над слупамі з Беластока, даведаўшыся аб самаволі незвычайнага слупа, аддаў загад без цуду перанесці яго і закапаць у полі на прызначаным уладамі месцы і дзеля супакою прыстроіць каля яго гістарычную лаўку.

Шафёры ПКС пачалі рэгулярна рабіць прыпынак каля слупа на полі. А на нядолю чакаючых, пачалі ліць дзень у дзень дажджы, а таму мус-нявол даводзіцца прыймаць сцюдзёны душ з нялaскавых нябёс і зайздросна пазіраць здалёк на пустуючую новазбудаваную будку ў Ахрэмавічах.

Па настойлівай просьбе сялян вёскі Ахрэмавічы напісаў у «Ніву»

Кум Навум